**Сёння апошні дзень падпіскі на «Народную Волю» на першую палову 2017 года.**
**Вас чакаюць да вечара ў паштовых аддзяленнях і спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».**

**№ 101 (4148)**

27 снежня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

«Народная Воля»
в Twitter
www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook
www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte
www.vk.com/nvonlineinfo

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Беларусы смуткуюць па ахвярах авіякатастрофы Ту-154

Учора мінчане неслі кветкі і лампады да будынка амбасады Расійскай Федэрацыі.







ВЕРДЫКТ

## Уладзіміра Кондруся асудзілі, але не пасадзілі

*Учора ў судзе Маскоўскага раёна Мінска быў вынесены прысуд фігуранту падзей Плошчы-2010.*

Нагадаем: судовы працэс над жыхаром г.п.Рудзенск **Уладзімірам Кондрусем,** якога амаль праз шэсць гадоў судзілі за ўдзел у масавых беспарадках падчас снежаньскіх падзей 2010 года, распачаўся 16 лістапада. Аднак пасля таго, як у зале суда Кондрусь паспрабаваў ускрыць сабе вены, было вырашана адправіць падсуднага на комплексную псіхолага-псіхіятрычную экспертызу.

Учора працэс аднавіўся, хаця Уладзіміра Кондруся ў зале суда не было – ён адмовіўся там прысутнічаць. На судзе сталі вядомы вынікі псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы: Кондрусь пакутуе і пакутваў у перыяд здзяйснення інкрымінуемых яму дзеянняў на расстройства асобы паранаідальнага тыпу. Маўляў, у момант здзяйснення злачынства не мог у поўнай ступені ўсведамляць свае дзеянні.

У выніку пракурор запрасіла для Уладзіміра пакаранне ў выглядзе трох гадоў абмежавання волі без накіравання ва ўстанову адкрытага тыпу з абавязковым амбулаторным лячэннем па месцы знаходжання, а таксама залічыць утрыманне пад вартай – дзень за два і вызваліць з-пад варты ў зале суда.

РЭБУС

# Без Лукашэнкі...

*Учора ў Санкт-Пецярбургу праходзілі саміты Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС) і АДКБ. У іх бралі ўдзел лідары ўсіх краін-удзельніц дадзеных арганізацый, акрамя Аляксандра Лукашэнкі. Чаму кіраўнік Беларусі не паляцеў на самiт?*

Трэба адзначыць, што яшчэ за дзень да пачатку працы форуму ў Пецярбург прыбыў прэзідэнт Казахстана **Нурсултан Назарбаеў**. Акрамя перамоў на вышэйшым узроўні лідары Расіі і Казахстана наведалі адразу два заводы ў Санкт-Пецярбургу – АТ «Диаконт» і ЗАТ «Биокад". Адным словам, дэманстравалі ўзаемапаразуменне і гатоўнасць працягваць супрацоўніцтва.

У панядзелак да Назарбаева і Пуціна далучыліся астатнія прэзідэнты краін-удзельніц ЕАЭС – Арменіі **Серж Саргсян**, Кыргызстана **Алмазбек Атамбаеў**, а таксама прэзідэнт Таджыкістана **Эмамалі Рахмон** (Таджыкістан уваходзіць у Савет калектыўнай бяспекі АДКБ).

Адсутнасць у Санкт-Пецярбургу Аляксандра Лукашэнкі пракаментаваў прэс-сакратар расійскага прэзідэнта **Дзмітрый Пяскоў.** Маўляў, нічога сенсацыйнага не здарылася, адсутнасць беларускага кіраўніка не паўплывае на падпісанне падрыхтаваных дакументаў. А, між іншым, цэнтральнай падзеяй саміту стала падпісанне Дамовы аб Мытным кодэксе. Той самай Дамовы, праект якой, на думку многіх экспертаў, не ўлічвае нашых нацыянальных інтарэсаў. Таксама на саміце падпісваўся і шэраг іншых дакументаў, у тым ліку па фарміраванні адзінага еўразійскага рынку тавараў і паслуг.

*«Усе дакументы, якія падпісваюцца, раней былі цалкам узгоднены з нашымі беларускімі партнёрамі»,* – патлумачыў Пяскоў і дадаў, што гэтыя дакументы затым будуць накіраваны ў Мінск на подпіс беларускаму кіраўніку.

Пяскоў таксама распавёў, што афіцыйны Мінск загадзя паведаміў пра немагчымасць Лукашэнкі ўзяць удзел у самітах у Санкт-Пецярбургу, і падкрэсліў, што *«Беларусь была, ёсць і працягвае заставацца нашым бліжэйшым саюзнікам» і партнёрам*".

Але, як бы ўсе кропкі над "і" ні расстаўляліся, застаюцца пытанні. Ёсць жа прычына, з-за якой Аляксандр Лукашэнка не паляцеў у Санкт-Пецярбург. Хутчэй за ўсё, яна звязана з тымі напружанымі адносінамі, якія ўсталяваліся ў апошні час паміж Беларуссю і Расіяй. Вось меркаваннне палітычнага аналітыка Цэнтра стратэгічных і знешнепалітычных даследаванняў **Юрыя Царыка:**

*– Зразумела, што ўсё гэта адбываецца на фоне глыбокага крызісу беларуска-расійскіх адносін, які ўжо тычыцца не толькі эканомікі, але і ідэалогіі і ваенна-палітычных пытанняў. Пасля лістападаўскай сустрэчы Лукашэнкі і Пуціна і наступнага развіцця падзей стала зразумела, што ніякіх пытанняў вырашыць не атрымаецца, бакі пакуль не гатовы па сутнасці абмяркоўваць сітуацыю, якая склалася. Таму вялікага сэнсу ехаць у Санкт-Пецярбург у Аляксандра Лукашэнкі не было. Хіба што рытуальна і цырыманіяльна паказаць сваю салідарнасць з Расіяй, але ў сувязі з трагедыяй у Расійскай Федэрацыі ўсе неабходныя крокі беларускі бок выканаў, мы адзіная, акрамя Расіі, краіна, якая, можна сказаць, абвясціла жалобу па загінуўшых пасажырах самалёта ТУ-154.*

*Другі аспект звязаны з тым, што Беларусь пакуль не гатова падпісаць Мытны кодэкс Еўразійскага эканамічнага саюза. І, не паехаўшы ў Санкт-Пецярбург, хутчэй за ўсё, Аляксандр Лукашэнка пазбег жорсткага сцэнарыя – гэта калі б ён прыехаў і не падпісаў дакумент. А так ён проста не выехаў, і паглядзім, што будзе далей з Мытным кодэксам, які, як адзначыў Пяскоў, прышлюць Лукашэнку на подпіс.*

Дарэчы, учора ў Маскве праходзіла 51-я сесія Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Старшыня Палаты прадстаўнікоў Беларусі **Уладзімір Андрэйчанка** выступіў на мерапрыемстве з жорсткай крытыкай. *«У Еўразійскім эканамічным саюзе не прымаецца важных рашэнняў, а сам саюз ператвараецца ў палітычны праект»,* – заявіў ён. Андрэйчанка таксама адзначыў, што ў адносінах Беларусі і Расіі не ўсё дабратворна, рэгулярна прымаюцца пратэкцыяніcцкія рашэнні, якія супярэчаць заканадаўчай базе Саюзнай дзяржавы і Еўразійскага эканамічнага саюза.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

САЛІДАРНАСЦЬ

## Мы разам з «Народнай Воляй»

На апошнім Сойме руху салідарнасці "Разам" акадэмік Леанід Лыч пры абмеркаванні становішча беларускай мовы ў грамадстве зрабіў выснову: "Яшчэ ніколі ў найноўшай гісторыі Беларусі не ўзнікала так востра і небяспечна пытанне не толькі захавання беларускай мовы, а і захавання самой незалежнасці".

Як пацвярджэнне гэтай тэзы прагучалі словы генерал-лейтэнанта Леаніда Рашэтнікава, дырэктара Інстытута стратэгічных даследаванняў РФ, які забяспечвае аналітыкай уладныя структуры прэзідэнта Пуціна: "Незалежнай Беларусі не можа быць", "Нельга забываць – гэта *(маецца на ўвазе Беларусь. –* **Рэд.***)* гістарычная частка вялікай Расіі, гэта частка нашага народа".

Той, хто яшчэ спадзяецца, што дэмакратыю і незалежнасць нам забяспечыць саюз з Расіяй, павінен пакінуць свае ілюзіі. Разам з тым разлічваць на дзейсную падтрымку дэмакратычных перамен з боку Заходняй Еўропы таксама не даводзіцца. Пагроза спынення фінансавання «БЕЛСАТА» – адзінага беларускамоўнага незалежнага тэлевізійнага канала, функцыянаванне якога дзевяць гадоў забяспечвала дзяржаўнае тэлебачанне Польшчы, – вымушае беларускую інфармацыйную прастору самастойна супрацьстаяць больш моцнаму і спрактыкаванаму антыбеларускаму наступленню так званага "русского мира".

У такой сітуацыі значна ўзрастае роля нашых незалежных СМІ і, адпаведна, пагроза ціску на іх. З "Народнай Воляй" вырасла цэлае пакаленне беларусаў, адданых тым ідэалам, каштоўнасцям, якія сфарміраваліся пад уплывам незалежнага выдання.

Газета "Народная Воля" за ўвесь час існавання не атрымала ніводнай капейкі з дзяржаўнага бюджэту, а, наадварот, была вымушана змагацца за выжыванне. Гэта барацьба за распаўсюджванне праз "Белпошту", суды за смелыя і праўдзівыя матэрыялы, аплата штрафаў. Калектыў газеты і яе галоўны рэдактар не адступіліся ад абранага накірунку рэдакцыйнай палітыкі: жыць інтарэсамі людзей, адстойваць прынцыпы дэмакратыі, галоснасці, несці праўдзівае слова.

Рух салідарнасці "Разам" заклікае ўсю дэмакратычную супольнасць падтрымаць незалежныя беларускія СМІ. Іх у нас не так шмат. Каштоўна кожнае выданне. Але "Народная Воля" ў гэтым шэрагу мусіць мець прыярытэт.

Нам, беларусам, трэба разлічваць на ўласныя сілы. Разам падтрымаем "Народную Волю"! Сойм руху салідарнасці "Разам" у поўным сваім складзе падпісваецца на газету "Народная Воля ".

**Сойм руху салідарнасці "Разам".**
*22.12.2016.*

ШЧАСЛІВАЙ ДАРОГІ!

## Каманда «МАЗ-СПОРТаўта» адправілася на «Дакар-2017»




*Яны, на жаль, не сустрэнуць Новы год з намі.*

# Іх лёс хвалюе Беларусь!



**Юрый ЗАХАРАНКА**
знік 6442 дні таму



**Віктар ГАНЧАР**
знік 6310 дзень таму



**Анатоль КРАСОЎСКІ**
знік 6310 дзень таму



**Дзмітрый ЗАВАДСКІ**
знік 6015 дзён таму

Народная Воля
http://www.nv-online.info
27 СНЕЖНЯ 2016 г.

СУДЬБА ЧЕЛОВЕКА

# «Работы для меня нет…»

*В марте витебчанке Ольге ТОВПЕНЕЦ отрезало кисть руки на деревообрабатывающем предприятии. Сейчас она получает пособие по инвалидности, из которого выплачивает кредит. «Народная Воля» связалась с Ольгой и расспросила о жизни после трагедии.*

Напомним, что в частную фирму «Дэли Ост» Ольга Товпенец устроилась сортировщицей, но буквально через несколько дней 34-летняя женщина начала обрабатывать древесину на автоматическом оборудовании.

– *Я должна была раскладывать рейки, но на деле оказалось, что нужно работать за станком,* – вспоминает жительница Витебска. – *В городе безработица, и большого выбора у меня не было. Посмотрела, как работает напарница, и на следующий день вышла самостоятельно.*

Более двух месяцев без соответствующего разряда и опыта Ольга отработала за станком. По словам пострадавшей женщины, на предприятии игнорировались правила техники безопасности, а 12 марта с оборудования было снято защитное покрытие, что и привело к трагедии.

Уже несколько месяцев Ольга получает пенсию по инвалидности, которая составляет чуть больше 130 рублей. Говорит, что трудоустроиться в ее положении непросто, поэтому спасает муж.

– *Из пенсии высчитывают за кредит, который был взят ранее,* – рассказывает Товпенец. – *Ходила на биржу труда несколько раз. Объясняют, что в Витебске есть предприятие по сборке розеток, на котором работают незрячие и глухонемые люди, но для меня вакансий нет.*

По факту произошедшего на деревообрабатывающем предприятии «Дэли Ост» еще в августе было возбуждено уголовное дело. Правда, пока никаких судебных заседаний не проходило. Как объясняет Ольга Товпенец, подобные дела могут разбираться больше года.

Никакой материальной помощи или просто извинений от бывшего работодателя женщина также не дождалась.

– *Я едва ушла с фирмы,* – объясняет она. – *Не хотели увольнять, но и работу директор не предоставлял. Нужно было писать, что за свой счет ушла. Одним словом, сложилась конфликтная ситуация.*

Сейчас Ольга ожидает суда и надеется на материальную компенсацию. Операция по установке современного протеза в Германии стоит 50 тысяч евро.

Недавно Товпенец вернулась из Минска, где встречалась с Олегом Гальцевым – белорусом, который изобрел механический протез для своего отца. Отечественный аналог стоит в десятки раз дешевле европейского.

– *Олег разыскал меня в социальной сети, мы созвонились,* – говорит Ольга. – *Он предложил бесплатно сделать протез. В Минске измерили руку, сфотографировали…*

*Ну а в целом жизнь идет, и к новым условиям пришлось адаптироваться. Стирать, убирать могу… С готовкой помогает муж, а вот завязать себе хвостики не получается.*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

МУДРЫЕ МЫСЛИ

## Взгляд сквозь века

Знакомясь с мыслями, высказанными умными людьми прошлых столетий, невольно поражаешься точности и глубине суждений, не только отражавших время, в котором они жили, но и спроецированных в будущее. Кажется, что все сказанное ими – наша сегодняшняя действительность.

Надеюсь, что подсказки мудрецов разных эпох и народов пойдут на пользу тем, кого это касается.

***



*Из всех добродетелей человека самая высшая – государственная… Но кто не может навести надлежащий порядок в своей частной жизни и семье, тот вряд ли наведет порядок в государственных делах.*

**ПЛУТАРХ, древнегреческий писатель и философ.**

***

*В ком нет любви к стране родной,*
*Те сердцем нищие калеки…*

**Т.Г.ШЕВЧЕНКО.**

***

*Править бессмысленно, а управлять – мудро. Правят, следовательно, потому, что не умеют управлять.*

**И.ЗАЙМЕ, немецкий писатель и публицист (1763--1810).**

***

*Беда, если львами командует баран.*

**В.ШИШКОВ, русский советский писатель (1873--1945).**

***

*Только тогда принимай в руки власть, когда научишься повиноваться.*

**СОЛОН, древнегреческий философ.**

***

*Тот, кто правит, должен видеть людей такими, каковы они есть, а вещи такими, какими им надлежит быть.*

**Л.БОНАЛЬД, французский политический деятель, философ и публицист (1754--1810).**

***

*Каждый князь должен править так, как он хотел бы, чтобы правили им, если бы он был подданным.*

**У.ТЕМПЛ, английский государственный деятель и литератор (1628–1699).**

ОСТРАЯ ПРОБЛЕМА




# Бегство от… должностей

Незадолго до Нового года в Крическом райисполкоме рассматривали вопрос о работе с резервом кадров. И это неспроста: в районе слишком много вакантных должностей. Так, депутаты райсовета вот уже три с половиной месяца не могут избрать председателя вместо "выбывшей" в Палату представителей Татьяны Марочковой. Более двух месяцев вакантна должность первого заместителя председателя РИК, более трех месяцев – должность начальника отдела строительства и архитектуры райисполкома.

Была заметна нервозность чиновников, когда журналисты негосударственной газеты "Вольны Горад" звонили на "горячие" и "прямые линии" и, ссылаясь на интерес общественности (а он действительно немалый), пытались выяснить, когда же свободные руководящие места займут конкретные люди. К примеру, заместитель председателя райсовета, начальник отдела экономики райисполкома Ирина Прудникова (исполняет обязанности председателя райсовета на общественных началах) в сердцах ответила корреспонденту "Вольнага Горада" Николаю Гердию: "Я исполняю обязанности на общественных началах. Мне никто и ничего не платит. Как только изберем председателя – так сразу и напишем". Однако время идет, а новости о кадровых назначениях приходят только из Минска.

Нельзя сказать, что никому не предлагали занять вакантные должности. Предлагали. Но относительно квалифицированные и грамотные специалисты от предложений немедленно отказывались, а ставить "затычек в бочку" уже небезопасно. И так авторитет (если об этом еще как-то можно говорить) руководителя района В.Сысоева и его команды близок к нулю. И среди населения, и среди руководителей.

Толковые руководители просто бегут из района – можно вспомнить заместителей председателя РИК Анатолия Кранцевича и Николая Степанова. Некоторые, попав в немилость к Сысоеву, пытаются правдами и неправдами уцелеть, спасти организации и хозяйства.

Наглядный пример последних дней. Председатель райисполкома В.Сысоев и некоторые его подчиненные, выполняя Указ №349 ("О реорганизации колхозов (сельскохозяйственных кооперативов)", пытались оказать давление на членов СПК "Колхоз им.Суворова" и его председателя Михаила Малашенко с целью заставить дать согласие на реорганизацию хозяйства. Люди, ошарашенные наглостью "вертикальщиков" и ведомые ветеранами колхоза Еленой Горчаковой, Светланой Исаченко, Иваном Тарароевым, "встали на дыбы" и согласия не дали. На каждом новом собрании (их прошло несколько) исполкомовцы обрушивали на головы собравшихся новые угрозы, изредка сдабривая их "пряниками". Люди устояли. Да и с какой стати им соглашаться на реорганизацию СПК, если хозяйство на протяжении нескольких лет считается лучшим в районе. От добра, как говорится, добра не ищут.

Говоря о положении дел в сельскохозяйственной отрасли района, отмечу, что не так давно специальная комиссия при Могилевском облисполкоме приняла решение начать процедуру банкротства КСУП "Бель". По некоторым сообщениям, на антикризисного управляющего проходит обучение руководитель КСУП Роман Быков. Однако далеко не все специалисты райсельхозпрода и сельчане одобряют это решение. Многие считают: в том, что хозяйство дошло до ручки, во многом виновен Быков.

Еще одним неприятным сюрпризом для района в конце года стало известие о возможном банкротстве когда-то крупной организации – ОАО "Кричевгрузавто". По крайней мере, 15 декабря собрание акционеров приняло решение о направлении в Экономический суд области ходатайства с просьбой признать акционерное общество банкротом. Причина – устойчивая неплатежеспособность и наличие долговых обязательств перед кредиторами (называлась сумма в 4 млрд неденоминированных рублей). Организация не может рассчитаться по зарплате даже с уволенными работниками. Есть информация, что директор Владимир Ильенков, руководящий ОАО более 15 лет, для погашения задолженности принял решение о продаже некоторых зданий, принадлежащих обществу.

Причина кадрового голода и экономических неурядиц в Кричевском районе лежит на поверхности: в Беларуси вследствие формирования системы власти, заточенной под одну всем известную фигуру, нет здоровой конкуренции ни в политике, ни в экономике. Избиратели выполняют роль статистов, хождением на избирательные участки "утверждая" выбор чиновников. Власть варится в собственном соку, не имея обратной связи с народом, не подпитываясь от него энергией и идеями. Критерии, по которым продвигают во власть людей, далеко не всегда соответствуют понятиям "профессионализм, интеллект, порядочность, такт".

Судя по всему, Кричеву, городу древнему и с особыми традициями (имел Магдебургское право с 28 августа 1633 года), при власти В.Сысоева уготована незавидная судьба. Люди просто кричат об этом, да не слышат их ни в Могилеве, ни в Минске. Может, наконец-то услышат ее новые руководители Администрации президента Республики Беларусь?

**Сергей НЕРОВНЫЙ.**

*г.Кричев.*

ЗА ПРАХАДНОЙ

# «Ніводны чалавек звольнены не будзе»

*З 1 студзеня 2017 года пачынае дзейнічаць новы Мытны кодэкс Еўразійскага эканамічнага саюза, "дзякуючы" якому пад пагрозай закрыцця апынулася паспяховае прадпрыемства "Беліт" з горада Паставы Віцебскай вобласці.*

260 работнікаў занепакоіліся, што могуць застацца без працы. Дырэктар "Беліта" **Дзмітрый Чыжэўскі** на пачатку лістапада расказваў "Народнай Волі", у чым сутнасць, здавалася б, неверагоднай сітуацыі: "*Усе гады прадпрыемства ўвозіла сыравіну, якой няма на тэрыторыі Беларусі і Расіі (а працуем мы толькі з сыравінай з Еўропы), бяспошлінна і ўсю вырабленую прадукцыю пастаўлялі на экспарт*". Але з 1 студзеня 2017 года, згодна з новым Мытным кодэксам, "Беліт" трапляе "*пад пошліну ў памеры… 164 (!) працэнты ад кошту ўвезенай сыравіны. Нават на нафце столькі не зарабляюць. І гэта для прадпрыемства непад'ёмна*".



Дзмітрый Чыжэўскі выказваў спадзяванне, што выхад знойдзецца, запэўніваў, што і ў холдынгу «Гарызонт», да якога адносіцца "Беліт", і ў Міністэрстве прамысловасці, і ў Саўміне займаюцца рашэннем дадзенага пытання. Работнікі завода, у сваю чаргу, не маглі зразумець: як беларускі бок увогуле дапусціў з'яўленне заканадаўчых актаў, скіраваных не на карысць, а на шкоду некаторым беларускім заводам, якія фактычна разбураюць тое, што сёння паспяхова функцыянуе. Чаму расіяне свае інтарэсы ў Мытным саюзе абараняюць, а нашы чыноўнікі – не, і простыя людзі потым робяцца закладнікамі гэтай сітуацыі? Хай невялікі, але стабільны заробак у 400–450 рублёў работнікі "Беліта", сярод якіх 70% жанчын, мелі пастаянна. Сёння "Беліт" з'ўляецца найбуйнейшым вытворцам тэхнічнай сурвэткі на тэрыторыі СНД і нават займае вядучыя пазіцыі ў Еўропе сярод прадпрыемстваў гэтай групы. А з Новага года ўсё, што напрацавана, магло быць ліквідавана.

– Тое, што праблема не замоўчвалася і што "Народная Воля" пра яе напісала, думаю, дапамагло, і рашэнне якое-ніякае прынята, – кажа сёння дырэктар УП «Завод Беліт» Дзмітрый Чыжэўскі. – Захаваны завод, захаваны працоўныя месцы. Але я не магу раскрываць падрабязнасці, не магу расказаць, чаго нам каштавала адстаяць інтарэсы людзей, інтарэсы прадпрыемства.

**– Колькасць працуючых захаваецца? Скарачэнняў на заводзе не будзе?**

– Ніводны чалавек звольнены не будзе. Больш за тое, калі я паведаміў нашым пакупнікам у Расіі і ў Еўропе, што мы працягваем працаваць, пасыпаліся заказы. На наступны год «Беліт» забяспечаны заказамі. Але ёсць нюансы, пра якія я казаць не магу.

**– Дзмітрый Барысавіч, ці атрымалася дамагчыся зніжэння мытных пошлін на сыравіну, якая ўвозіцца? Можа, перагледжаны некаторыя нормы новага мытнага заканадаўства ЕАЭС, якія, мякка кажучы, не абараняюць інтарэсы нашых прадпрыемстваў?**

– На гэта пытанне я не адкажу, таму што не пра ўсё магу гаварыць… Выхад знайшлі, і для нашага прадпрыемства ўсё скончылася адносна нядрэнна. Вялікая заслуга ў тым, што завод адстаялі, генеральнага дырэктара холдынга «Гарызонт» Юрыя Іванавіча Прэдкі і старшыні Пастаўскага райвыканкама Віктара Сяргеевіча Гутарава. Я, у сваю чаргу, буду старацца кампенсаваць людзям усё, што яны страцілі, пакуль ішла гэтая блытаніна. Цяпер прадпрыемства працуе ў поўным аб'ёме, без навагодніх вакацый. Нават 2 студзеня, хутчэй за ўсё, у нас будзе працоўны дзень. Думаю, месяцы 3–4 нам спатрэбіцца, каб адысці ад таго, што нас падкасіла, і да вясны мы цалкам адновімся. Прыйдзецца, праўда, пераарыентавацца на іншыя рынкі, больш актыўна рухацца ў бок Еўропы.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Беларускія біятланісткі даюць «агню»!

*Як вядома, не так даўно нарадзіла дзіця трохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар'я Домрачава, а зараз пакінула зборную Беларусі з-за пытанняў, "якія прыемныя для жанчыны", і Анастасія Кінунен (Дубарэзава).*

«*Яе зараз у большай ступені непакояць іншыя пытанні – больш прыемныя для жанчыны, чым біятлон*, – распавёў трэнер па біятлоне Фёдар Свобада. – *Натуральна, гэта нечаканасць, але жыццё ёсць жыццё*".

Анастасія Кінунен (Дубарэзава) у якасці спадарожніка жыцця абрала страхавога агента з Фінляндыі. Як бачым, па прыкладзе Дар'і Домрачавай прагледжваецца "скандынаўскі накірунак".

ЧУЛІ?

## Назад, у БДУ

*Стала вядома пра новае працаўладкаванне экс-міністра адукацыі Міхаіла Жураўкова.*

Ён узначаліў кафедру тэарэтычнай і прыкладной механікі механіка-матэматычнага факультэта БДУ. Прычым на новым месцы працы Жураўкоў з'явіўся адразу ж пасля адпачынку. На сайце БДУ ён ужо таксама прадстаўлены як загадчык кафедры.

Якія-небудзь каментары адносна адстаўкі з пасады міністра адукацыі Міхаіл Анатольевіч даваць адмаўляецца.

Варта адзначыць, што Жураўкоў вярнуўся туды, адкуль пачынаўся яго кар'ерны ўзлёт у сферы адукацыі. Менавіта на кафедру тэарэтычнай механікі і робататэхнікі БДУ (зараз кафедра тэарэтычнай і прыкладной механікі) ён прыйшоў працаваць у 1997 годзе ўжо будучы прафесарам. На той момант Жураўкову было толькі 36 гадоў. У 1999-м ён узначаліў кафедру, а ў сакавіку 2007 года стаў дэканам механіка-матэматычнага факультэта.

У студзені 2009 года Жураўкова прызначылі на пасаду першага прарэктара БДУ. У снежні 2014-га ён стаў міністрам адукацыі.

Дарэчы, на рахунку прафесара Міхаіла Жураўкова нямала навуковых прац, у яго шмат вучняў. Ён падрыхтаваў аднаго доктара і 13 кандыдатаў навук. Узнагароджаны медалём Ф.Скарыны і нагрудным знакам Міністэрства адукацыі «Выдатнік адукацыі».

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

НУ І НУ!

## Дзе беларускія глобусы?

«*Перад навагоднімі святамі мне давялося шукаць у беларускіх крамах глобус, каб Дзед Мароз мог пакласці яго пад ялінку для маіх дзяцей. У працэсе пошуку выявілася, што ў продажы адсутнічаюць глобусы беларускай вытворчасці*», – напісаў у сваім лісце да дырэктара прадпрыемства «Белкартаграфія» сябра Руху «За Свабоду» **Дзмітрый Шыманскі**.

Актывіст звярнуўся да адказнай асобы з просьбай забяспечыць магазіны беларускімі глобусамі. "*У крамах ёсць толькі глобусы, вырабленыя для расійскага рынку, а там наша краіна названа «Белоруссией», Крым – расійскі, няма глобусаў на беларускай мове*", – адзначыў Дзмітрый Шыманскі і звярнуў увагу на тое, што «*Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства "Белкартаграфія" мае дзяржаўную форму ўласнасці і адказвае за картаграфічную вытворчасць у Рэспубліцы Беларусь*».


Народная Воля
http://www.nv-online.info
27 СНЕЖНЯ 2016 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Людзі просяць скінуць хоць рубель»



*Карэспандэнт «Народнай Волі» наведаў полацкі рынак і паглядзеў, як трымаюцца прадпрымальнікі.*

Паводле слоў дробных гандляроў, купляючы, напрыклад, тавар у Маскве, праблематычна атрымаць адпаведную дакументацыю. Там ёсць фірмы, якія існуюць толькі на паперы. Расійскіх пастаўшчыкоў не хвалююць складанасці, якія потым узнікаюць у беларускіх прадпрымальнікаў з падатковай інспекцыяй. І працаваць даводзіцца на ўмовах пастаўшчыкоў з Масквы ці Санкт-Пецярбурга.

Год таму многія іпэшнікі збіраліся пераязджаць працаваць у Расію ці зусім закрывацца. А што цяпер?

…Раніцай у суботу на полацкім рынку не праціснуцца, а ўсе паркоўкі заняты аўтамабілямі. На першы погляд і не скажаш, што ў прадпрымальнікаў ёсць праблемы з гандлем.

Абыходжу рынак і налічваю толькі чатыры гандлёвыя кропкі, на якіх ніхто не працуе.

Праўда, не ўсе іпэшнікі суботняй раніцай настроены на дыялог. Людзі баяцца фатаграфавацца, не кажучы пра тое, каб расказаць, як ім зараз працуецца.

– *За год прадпрымальнікаў запалохалі, таму нічога дзіўнага ў іх паводзінах,* – пагаджаецца пагаварыць Кацярына, якая прадае жаночыя курткі. – *Праверкі падатковай, канфіскацыя тавараў, штрафы – усё было. Хто закрыўся, хто на беларускі тавар перайшоў, некаторыя на свой страх і рызыку стаяць.*

Кацярына распрадае рэшткі леташняга тавару. Пасля таго як на імпарт з Расіі сталі патрабаваць дакументы, ездзіць на аптовыя рынкі ў Санкт-Пецярбург жанчына перастала. За некалькі апошніх дзён яна не прадала ніводнай рэчы.

Адзенне па 100 рублёў для жыхароў Полацка не па кішэні.

– *Я не бачу сэнсу ў такой рабоце,* – тлумачыць полацкая іпэшніца. – *На круглую суму трэба закупіць тавару, які ў мяне потым тут канфіскуюць?! Рускім усё роўна, што тут адбываецца. Яны ніякія паперы даваць нам не будуць. На спрыяльныя перамены я ўжо не спадзяюся, людзі бяднеюць. Прадам, што засталося, а там відаць будзе. Дзякуй Богу, працуе муж, дзеці таксама на сваім хлебе.*

Выхадныя і перадсвяточныя дні для прадпрымальнікаў адзіная магчымасць нешта зарабіць. У Полацк па пакупкі з'язджаюцца з Расонскага, Ушацкага, Міёрскага і іншых раёнаў. Прадпрымальнікі кажуць, што ў будныя дні гандлю практычна няма. Каб рэалізаваць тавар, многія іпэшнікі ладзяць распрадажы.

– *Нягледзячы на тое, што ў рэгіёне два буйныя прадпрыемствы, пакупніцкая здольнасць насельніцтва знізілася,* – кажа мясцовая прадпрымальніца Таццяна Барысаўна. – *Я не першы год працую, таму заўважыла. Прадаю шапкі і пальчаткі па 5–10 рублёў, але людзі ўсё роўна просяць скінуць хоць рубель.*

У станоўчыя змены жанчына не верыць. Кажа, што пытанне аб заробку ўжо не стаіць, таму на працу ходзіць па інерцыі.

– *Ісці з рынку няма куды,* – распавядае вопытная прадпрымальніца. – *Мне амаль 50 гадоў, у такім узросце, асабліва ў правінцыі, уладкавацца складана. Год прайшоў, а нічога не змянілася: хто не закрыўся – праядае запасы, хто сышоў – збярог нервы і здароўе.*

Полацкая прадпрымальніца і актывістка Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Перспектыва» **Вольга Шарстабітава** з-за судовых разглядаў без работы ўжо год. Кажа, што іпэшнікі на рынку працуюць, пакуль няма праверак з падатковай.

– *Каб не сядзець дома, людзі ходзяць на рынак* – выказвае сваё меркаванне Вольга Шарстабітава. – *Шмат каму ўжо за сорак – з працай цяжка, таму гэта ўжо не бізнес, а хобі, якое нагадвае бочку з порахам. Гандаль на рынку ратуе тое, што ў Полацк шмат едзе людзей з вёсак. За кошт гэтага ёсць магчымасць зарабіць хоць на прадукты да святаў. Ведаю, што некаторыя прадаюць тавар ужо па аптовым кошце, каб вярнуць выдаткаваныя грошы.*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

*Полацк.*

ОФИЦИАЛЬНО

# 20 лет страхового стажа – это абсолютно нормально!

*Снизят ли пенсии работающим пенсионерам? Увеличится ли страховой стаж? Сохранится ли в Беларуси разный пенсионный возраст для мужчин и женщин? Во время «Прямой линии» специалисты Министерства труда и соцзащиты ответили на эти и многие другие вопросы, волнующие людей.*

### Без изменения…

**– Слышала, что предлагалось повысить пенсионный взнос для работника с 1% до 2%. Это возможно? Планируется ли изменять размер отчислений в Фонд социальной защиты населения?**

**Лариса Яшкова**, *заместитель начальника главного управления пенсионного обеспечения Министерства труда и социальной защиты:* – В настоящее время вопрос о повышении размера пенсионного взноса не рассматривается.

**– Последнее время очень бурно обсуждается новость, что с января 2017 года будут удерживать 45% из заработной платы, если пенсионер работает и получает пенсию. Можно узнать, правда это или нет?**

**Наталья Мурашкевич**, *начальник главного управления пенсионного обеспечения Министерства труда и социальной защиты:* – Вопрос об изменении порядка выплаты пенсий работающим пенсионерам в настоящее время не рассматривается.

### Страховой стаж будет расти?

**– Я хочу получить ответ на такой вопрос: стажевый порог для назначения пенсии повышается с прежних 5 лет до 20 лет в ближайшей перспективе. Это предел или он будет расти и дальше?**

**Валерий Ковальков,** *замминистра труда и социальной защиты:* – Решение о повышении минимального требуемого стажа до 20 лет работы с уплатой взносов продиктовано в первую очередь демографическими изменениями – старением населения, увеличением общей продолжительности жизни и, соответственно, периода получения пенсии. Сегодня пенсию у нас получают в среднем около 20 лет. Что касается будущего, то, по прогнозам демографов, тенденция роста продолжительности жизни сохранится. В этой связи от вопросов, связанных с корректировкой стажа, в перспективе, вероятно, также не уйти. В экономически развитых странах требования к стажу устанавливаются еще более жесткие. Например, для получения полной пенсии в Чехии требуется иметь 30 лет стажа с уплатой взносов, во Франции – более 41 года, в Бельгии – 45 лет.

**– Считаю, что страховой стаж неоправданно велик для тех, кто служил в армии, ухаживал за нетрудоспособными.**

**Н.Мурашкевич:** – По общепринятому подходу в условиях старения населения право на пенсию за счет средств страхования предоставляется тем, кто в течение значимого периода осуществлял трудовую деятельность с уплатой взносов на государственное социальное (пенсионное) страхование. При этом требуемая продолжительность минимального страхового стажа экономически и социально обоснована тем, что трудовая пенсия выплачивается гражданам длительный период – в среднем более 20 лет (женщинам – около 26 лет). Причем этот период постепенно увеличивается за счет роста продолжительности жизни. Так, для назначения трудовой пенсии по возрасту на общих основаниях в 2016 году требуется не менее 15 лет 6 месяцев страхового стажа. Ежегодно его продолжительность будет повышаться на 6 месяцев до 20 лет к 2025 году. С другой стороны, такие требования по минимальному страховому стажу для работников посильные. Ведь стаж 15–20 лет работы формируется в течение всего трудоспособного периода жизни, что позволяет его сформировать даже с учетом возможного отвлечения на иную социально значимую деятельность.

### Актуальность не утрачена

**– Скажите, пожалуйста, с повышением пенсионного возраста отложенная пенсия вообще потеряла свою актуальность? Планируется ли сделать ее условия привлекательнее?**

**В.Ковальков:** – Актуальность не утрачена, и действие законодательной нормы о премировании в размере пенсии при более позднем обращении за ней (либо за отказ от получения назначенной пенсии в период работы) сохраняется. Размеры премиальной надбавки к пенсии значительно повышены в 2012 году. Так, за 5 лет работы без получения пенсии можно увеличить ее размер в среднем в 1,7–1,8 раза.

### Время покажет…

**– Сохранится ли в Беларуси в среднесрочной перспективе разный пенсионный возраст для женщин и мужчин? Возможно ли в Беларуси дальнейшее повышение пенсионного возраста в ближайшие годы?**

**В.Ковальков**: – На ближайшие шесть лет решение по пенсионному возрасту принято – он будет постепенно увеличиваться: каждый год на 6 месяцев до 58 лет у женщин и 63 лет у мужчин в 2022 году. Что касается долгосрочного периода – время покажет. Здесь важно, как будут складываться демографические процессы, как будет работать экономика и, соответственно, какова будет ситуация с поступлением взносов в бюджет Фонда социальной защиты населения. Значение будут иметь и другие факторы: занятость, миграция и т.д.

**– Беларусь пошла по пути повышения пенсионного возраста. А в каких странах он сохранился на прежнем минимуме? И в каких странах сейчас самый высокий пенсионный порог?**

**– Н.Мурашкевич:** – Возраст выхода на пенсию 60 лет для мужчин и 55 лет для женщин сохранился в Узбекистане и России. В Германии пенсионный возраст увеличивается постепенно до 67 лет с 2012 по 2029 годы (для тех, кто родился после 1963 года, пенсионный возраст составит 67 лет). В 67 лет уходят на пенсию в Греции, Исландии, Норвегии.

**– Каково сейчас соотношение пенсионеров и работников? Как изменялся этот показатель в последние годы и что ожидается в перспективе в связи с повышением пенсионного порога?**

**Л.Яшкова**: – В 1990 году на 100 работников приходилось 46 пенсионеров, в текущем году (по оценке) – 62 пенсионера. Ожидается, что повышение пенсионного возраста сдержит рост нагрузки на работников.

### Больше стаж – выше пенсия

**– Возможно ли право выбора гражданином периодов трудового стажа для расчета пенсии?**

**Н.Мурашкевич:** – При назначении пенсии учитывается весь стаж работы, подтвержденный в установленном порядке, который имеет обратившийся за пенсией. Это обусловлено тем, что от продолжительности стажа зависит размер пенсии: чем продолжительнее стаж, тем выше размер пенсии. Что касается определения заработка для исчисления пенсии, то в 2016 году он определяется за последние 22 года подряд стажа работы, но не более чем за фактически имеющийся стаж работы.

**– Можно ли выбрать для исчисления пенсии более высокий заработок за всю трудовую деятельность?**

**Н.Мурашкевич:** – Нет, такая возможность законодательством не предусмотрена. Заработок для исчисления пенсии определяется за установленный законодательством период. Так, в 2016 году пенсия исчисляется из заработка за последние 22 года стажа работы, но не более чем за фактически имеющийся стаж работы. Ежегодно указанный период увеличивается на один год до фактически имеющегося у гражданина стажа работы.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ

Елена МОЛОЧКО

# Выкидыши

Как несовершенен людской суд… А если точнее, как чудовищны человеческие пороки и злодеяния – ни один Уголовный кодекс не в состоянии предусмотреть все оттенки черного.

Вот шокирующая новость последних дней: 17-летний студент, напавший с бензопилой в ТЦ «Европа» на безоружных людей, признан вменяемым. Комплексная психолого-психиатрическая экспертиза сделала вывод, что этот белокурый выродок «в полной мере отдавал отчет своим действиям и руководил ими».

Ну, если он – здоровый, то больная, значит, я. Потому что звериная, дьявольская жестокость моему пониманию не доступна: как может родиться в нормальной человеческой голове такая гигантская волна ненависти к окружающим? И как его собственная душа не остановила действия, созревшие в мозгу? Значит, нет у этого двуногого души. А вы говорите здоровый…

Чудовищу светит 12 лет. Почему так мало? Этого нравственного урода, купившего не только пилу, но и средства защиты (!) при работе с инструментом перед тем, как пойти на убийства, по-моему, надо держать в клетке всегда. Кто даст гарантию, что после тюрьмы, обозленный, униженный – но ведь «здоровый», он не повторит свою вылазку, опять поддавшись раздражению, запальчивости, минутному нерасположению духа?

Параллельно в эти же дни еще один наш соотечественник проходил судебно-медицинскую экспертизу. Тот, кто ночью *на «Мерседесе» заехал на площадку мемориального памятника* на площади Победы и крутанулся с глупым шиком несколько раз возле Вечного огня. Вскоре после «показательного выступления» и настоящей погони водитель был остановлен госавтоинспекцией. Результаты экспертизы, правда, еще не обнародованы, но, думается, шкодник здоров, как бык, потому что по горячим следам сам дал оценку своему поступку, назвав себя дураком… Что ж, если не оправдывающий, то вполне трезвый взгляд на собственные понты. Неужели тоже хотел стать звездой «Ютуба»?

На горе-водителя прокурором заведено уголовное дело, ему светит до 3 лет лишения свободы. Трешечку на плечи, шутит байнет. А мне кажется, такие проступки требуют качественно иного наказания. Ну что на три года запереть хулигана в колонию? Еще жалеть себя начнет, эта жертва гормонального фона… В данном случае гораздо лучше, по-моему, если бы человек за свои действия прежде всего почувствовал стыд, испытал на собственной шкуре цену позора, всеобщего общественного порицания. Это гораздо важнее и действеннее. Например, пусть теперь месяц убирает снег на площади. И не ночью, когда украдкой «геройствовал», а днем, при всем народе, когда каждый проезжающий мимо увидит его с лопатой. Но к Вечному огню шута не подпускать! К Огню люди поклониться ходят. Пусть он ходит и подбирает снежинки вокруг мемориальной площади. Дурак, говоришь? Ну так играй свою роль до конца.

Статья 346 Уголовного кодекса Республики Беларусь – «надругательство над историко-культурными ценностями», которая светит водителю «Мерседеса», в данном случае слишком тяжеловесна, значительна. Не надо суровым приговором придавать вес поступку, который лучше всего обозначить как заурядную дураковатость. Наша настоящая ценность – память о войне, она от глупости не пострадала, нравственно здоровых сил в обществе гораздо больше. И вообще, если бы не милицейское видео, никто бы утром даже не заметил следов от автомобильных шин на площади Победы у монумента. Другое дело, если акция была спланирована водителем заранее – промелькнула и такая информация, – чтобы потом выложить в интернет и собрать у зрителей «лайки». Такое примитивное желание славы любыми средствами в любом месте… А вот это уже – настоящий диагноз.

Водителю пришло время принять холодный душ и увидеть границы дозволенного и недозволенного в обществе. Вечный огонь у памятника Победы – место в столице Беларуси исключительной значимости, требующее благоговейного отношения. Такое есть в любой столице мира. Думаю, все-таки в какой-то мере понимал это и молодой человек из «Мерседеса», потому что решился на свой дрифт воровато, исподтишка, ночью, а не днем. Но мера его понимания оказалась недоразвитой, вульгарной. Вот вопрос – почему? И хотя человеку 27 лет, я адресовала бы вопрос родителям. Неужели они никогда не рассказывали сыну о Хатыни, не праздновали в семье 9 Мая? Не пели, не слушали за общим семейным столом фронтовые песни, чтобы ощутить скупую внутреннюю дрожь? Их прадеды не воевали за Победу? Почему же они не внушили сыну святого уважения к павшим?

Родители упускают детей. Их выращивают только физически, а морально они несостоявшиеся люди. Ну… просто выкидыши. Неодушевленные существа.

ДА 100-ГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ

# Яна паднімала сцяг Незалежнасці Беларусі

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ**

***(Заканчэнне. Пачатак у №№97,98.)***

### 12 ключавых ідэй хрысціянскай дэмакратыі

**1.Хрысціянскія каштоўнасці** – падмурак сумленнай палітыкі. Хрысціянства так ці інакш тычыцца ўсіх сфер чалавечага жыцця, уключна з палітыкай, – і менавіта яно ляжыць у падмурку заходняй цывілізацыі. Біблія змяшчае прынцыпы справядлівага кіравання і адказвае на ўсе пытанні, датычныя таго, як трэба будаваць жыццё ў чалавечай супольнасці.

**2.Дэмакратыя**. Існуе моцная сувязь паміж хрысціянскімі каштоўнасцямі і дэмакратыяй. Грамадзяне мусяць мець магчымасць легальным шляхам змяніць уладу і ўплываць на прыняцце рашэнняў, якія іх тычацца. Прававая дзяржава азначае падзел улад, плюралізм, свабоду слова, сумленныя выбары.

**3.Персаналізм**. Кожны чалавек – унікальны вобраз і падабенства Божае. Асоба, а не безаблічны індывід ці калектыў – кропка прыкладання сіл у практычнай палітыцы. Паводле пераканання Марытэна, не чалавек існуе для дзяржавы, а дзяржава існуе для чалавека.

**4.Субсідыярнасць**. Рашэнні мусяць прымацца на тым узроўні, на якім існуе праблема. Улада мае быць як мага бліжэйшай да грамадзян. Структуры вышэйшага ўзроўню павінны браць на сябе вырашэнне толькі тых задач, якія асобны чалавек альбо мясцовая супольнасць не адужае. Моцнае мясцовае самакіраванне, забяспечанае адпаведным бюджэтам, грунт для магутнасці ўсёй дзяржавы.

**5.Папулярызм (народнасць)**. Для таго каб улічыць інтарэсы ўсіх сегментаў і асобных людзей, патрэбны цэласны погляд на грамадства. Хрысціянска-дэмакратычная палітыка павінна ахопліваць інтарэсы як мага больш шырокіх колаў людзей.

**6.Інтэгральны гуманізм**. Уся гісторыя чалавецтва сведчыць пра свядомае ці несвядомае імкненне да Боскага ідэала – і задача хрысціянскага дэмакрата заключаецца ў яднанні гэтага чалавечага памкнення з адкрыццём, увасобленым у Хрысце, тут і цяпер, у рэальнай гісторыі.

**7.Агульнае дабро**. Агульнае дабро – мэта дзяржаўнай улады і ўяўляе сабой справядлівае пераразмеркаванне даброт дзеля агульнага развіцця. Кожны чалавек адказны перад грамадствам у тым, як ён рэалізоўвае права быць творцам уласнага лёсу.

**8.Салідарызм**. Для зладжанага ўзаемадзеяння і каардынацыі розныя пласты грамадства мусяць быць гатовы саступаць адно аднаму: гэта вынікае з іхняй узаемазалежнасці і ўзаемапавагі. Салідарнасць у рэшце рэшт працуе на агульнае дабро. На міждзяржаўным узроўні салідарызм азначае, што багатыя краіны мусяць дапамагаць бедным.

**9.Камунітарызм**. Місія чалавека на зямлі – не ў асабістай канкурэнцыі з іншымі людзьмі альбо ў выкананні вызначанай функцыі ў механізме дзяржавы, а ў тым, каб найбольш поўна рэалізаваць сябе ў натуральных ячэйках грамадства: сям'і, царкве, прафесіі, супольнасці, краі. Трэба абараняць свабоду, аўтаномію і цэласнасць гэтых ячэек, у тым ліку і ад дзяржаўнага кантролю.

**10.Сацыяльная рынкавая эканоміка**. Рынак паўсюль, дзе магчыма, рэгуляванне толькі там, дзе неабходна. Эканамічная дзейнасць павінна служыць чалавеку, а не падначальваць яго.

**11.Адзінства чалавецтва**. Хрысціянская дэмакратыя разглядае чалавецтва як унікальную і цэласную супольнасць з узаемнай залежнасцю і адказнасцю. Пераадоленне супярэчнасцяў магчыма праз няспынны дыялог культур і цывілізацый.

**12.Хрысціянская этыка.** Прабачэнне, пакаянне, імкненне да згоды, цярплівасць – гэта не толькі асабістыя або духоўныя, але таксама і палітычныя каштоўнасці. Палітыка павінна мець маральны падмурак.Ператварэннем павінна папярэднічаць маральнае ўдасканаленне людзей.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

*Шаноўны галоўны рэдактар!*

*У адным з нумароў “Народнай Волі” была абвестка аб Зосьцы Верас, прапаноўвалася надрукаваць біяграфію, жыццёвы і творчы шлях гэтай цудоўнай жанчыны-паэткі, адданай беларускай справе. Чакаю такі матэрыял.*

*Я прапаную апублікаваць успаміны З.Верас аб М.Багдановічу пад назвай “Пяць месяцаў у Мінску”.*

*Цудоўны матэрыял! Цікава і змястоўна апісвае З.Верас мінскае жыццё тае пары – як сваё, так і Максіма. Свядомыя беларусы будуць удзячны Вам за такую публікацыю, тым больш у гэтыя дні, калі Беларусь працягвае адзначаць 125-годдзе з дня нараджэння Вялікага паэта. Магчыма, спатрэбяцца кароткія характарыстыкі беларускіх дзеячаў, прозвішчы якіх успамінае З.Верас у сваіх успамінах, – прыкладваю іх.*

*З падзякай –*

**Зінаіда Юр’еўна МОНІД.**

**Мінск.**

Зоська ВЕРАС

# Пяць месяцаў у Мінску

Рэпрадукцыя карціны Івана Пратасені.

– У хуткім часе ў Мінск прыедзе Максім Багдановіч!
– Калі?
– Надоўга?
– Што ён піша?
– Максім Багдановіч піша, што хоча пажыць у Мінску, у сваім родным горадзе, дыхнуць паветрам Бацькаўшчыны, пачуць жывую беларускую мову. Просіць паклапаціцца аб працы для яго, а калі канкрэтна прыедзе, яшчэ напіша або папярэдзіць тэлеграмай.

Нас ахапіла і радасць, і трывога. Радасць, што пазнаем нашага дарагога паэта, і трывога за яго здароўе, яго жыццё…

Як доўга ён з намі пабудзе?

Было гэта недзе ў сярэдзіне верасня 1916 года.

У “Беларускай хатцы” на Захар’еўскай вуліцы, №18 – сталоўцы Таварыства помачы ахвярам вайны – кожны вечар збіраліся як сябры, так і працаўнікі Камітэта Таварыства, каб разам скараталь вольны вечар, падзяліцца думкамі ды ўражаннямі перажытага дня.

Цяпер вестка аб прыездзе М.Багдановіча дала новую тэму для гутарак і адначасова новыя абавязкі. Трэба было падумаць загадзя, дзе ён будзе жыць. Перабіраючы розныя магчымасці, спыніліся на тым, што найлепш будзе наняць пакой у Бядулі.

Змітрок Бядуля з сёстрамі Рэняй і Чэрняй жыў на маленькай ціхай вуліцы Малой Грыгор’еўскай у доме Радзькі. Дамок стаяў у глыбіні панадворка, за домам быў садок, студыя. Ціха, спакой, добрае паветра. Кватэра (там больш ніхто не жыў) мела тры пакоі: два займаў Зм.Бядуля з сёстрамі, а трэці – вялікі, светлы, з асобным уваходам – цалкам стаяў пусты. (У гэтым пакоі я пасля жыла некалькі месяцаў са сваёй маці.)

З Бядулем хутка дагаварыліся. Ён быў рады мець пад сваёй страхой такога госця.

Нарэшце ў канцы верасня ці мо на пачатку кастрычніка М.Багдановіч прыехаў у “Беларускую хатку”, дзе мы цэлай грамадой чакалі яго з нецярплівасцю.

Сардэчны, сціплы і просты, М.Багдановіч адразу заваяваў агульную сімпатыю. Ужо ў канцы вечара здавалася, што ён даўно з намі, што ўсім блізкі і дарагі. Тым больш трывожылі яго бледнасць і бліскучыя ад гарачкі вочы. Кашляў зусім мала.

Пасля гарбаты сядзелі нядоўга. Трэба было змучанаму дарогай адпачыць. На кватэру адвялі Багдановіча Галубок і Фальскі.

Дагаварыліся, што Багдановіч будзе сталаваца, як і мы ўсе, у сталоўцы, але будзе тут мець і снеданні, і вячэры.

Мая маці ў той час была загадчыцай сталоўкі, і мы жылі тут на месцы. Так што мы з Багдановічам бачыліся па тры разы на дзень, а вечары, як заўсёды, праводзілі разам з цэлай нашай грамадкай: М.Багдановіч, Фальскі, Галубок, часта Ядвігін Ш., я…

Праз пару дзён выявілася, што Максім вельмі мала дбае пра сваё здароўе. Найчасцей забываўся прыняць лякарствы, не прыносіў іх з сабой. Як кожны такі хворы, не любіў, каб яму прыпаміналі аб лякарствах, а тым самым аб хваробе.

Тады ўмяшалася мая маці. Угаварыла яго аддаць ёй усе лякарствы і сама яму іх давала ў адпаведны час. Новыя дозы хто-небудзь з нас прыносіў з аптэкі, так што ён не патрабаваў аб сваім лячэнні думаць і клапаціцца. Не толькі для лячэння, але наогул да ўсіх спраў, што датычылі яго самога, адносіўся дзіўна абыякава.

Адразу ў першы вечар здзівіла нас просьба Багдановіча не класці яму ў гарбату цукру… На пытанне, можа, не любіць салодкага, адказаў: “Не ў тым справа, але з цукрам не п’ю”. Дарма стараліся пераканаць, што гэта не здарова, што цукар яму неабходны… Не і не. Раз нехта, не помню хто, цішком перамяніў шклянку, і гарбата аказалася салодкай. Як жа ён разгневаўся, разнерваваўся! Ледзь удалося супакоіць і перапрасіць.

Праз пару дзён пасля гэтага, калі мы снедалі толькі ўдваіх, я запыталася: “Скажыце шчыра, чаму так упіраецеся пры сваёй пастанове, нашто вы сабе шкодзіце?” – “Бачыце, – кажа, – вельмі перажываю тое, што я бяссільны памагчы тым, хто цяпер, падчас вайны, цярпіць голад, асабліва шкадую дзяцей. Калі я сабе адмаўляю таго, што люблю (бо, прызнацца, люблю салодкую гарбату), мне здаецца, што я раблю нейкую ахвяру, і гэта мяне хоць крыху пацяшае…”

“Выбачайце, – кажу, – але фактычна ваша ахвяра нічога дзецям не дае”. – “А гэта пабачым”, – неяк загадкава адказаў.

І сапраўды, праз нейкія тры месяцы пабачылі. М.Багдановіч працаваў у магістраце ў аддзеле харчавання. Там працаўнікам, апрача платы, выдавалі паёк – пераважна цукар. І вось у адзін дзень раніцай, пасля снедання, выходзячы на працу, Максім просіць маю маму, каб дала яму чыстую пошыўку. Увечары сабраліся і дзівіліся, што так доўга няма Максіма. Ён прыйшоў позна і прынёс на плячах паўпуда цукру! Аддаў яго мне (я была паміж іншымі абавязкамі сакратаркай Камітэта) і кажа: “Гэта для дзяцей уцекачоў”. Усе былі ўзрушаны, але зрабілі вымоўку за тое, што сам нёс, а не паклікаў каго-небудзь, каб памаглі…

Неяк у канцы кастрычніка прыехала да мяне з фронту медсястра, мая сяброўка з “Гродзенскага гуртка беларускай моладзі” Марыся Бобрык. Прыехала на адзін дзень і ўвечары позна выязджала. Я сабралася яе правесці на вакзал. Мы ўжо выходзілі, як падышоў да мяне Максім і пытаецца: “Можна мне з вамі?” – “Разумеецца, калі ласка”. Вуліцы былі пустыя, нідзе нікога. Не ведаю, чаму мы ішлі не па тратуары, а пасярод вуліцы. Мы з сяброўкай успаміналі Гародню (Гродна), наша там жыццё, працу ў гуртку. Багдановіч з зацікаўленнем слухаў, заўважыўшы, што жыў у Гародні, як быў маленькі, і што там пахавана яго маці.

Варочаліся зноў пасярэдзіне вуліцы памаленьку, не спяшаючыся. І тады Максім пачаў гаварыць аб сабе…

“Я ўжо пагадзіўся са сваёй хваробай і з тым, што жыць засталося няшмат, але вельмі мне цяжка, што не магу мець сям’ю. Я так люблю дзяцей. Ведаеце, калі я пачаў пісаць і друкаваць вершы – на жаль, не ў сваёй мове, а па-руску, бо я гадаваўся ў рускім асяроддзі, як ні горка да гэтага прызнацца? А напісаў калыханку і аддаў яе ў друк, падпісаўшы псеўданімам. Усе, хто яе чытаў, думалі, што гэтую калыханку напісала жанчына і то жанчына-маці. У гэты твор я ўклаў сваё пачуццё”.

Пасля наша гутарка перайшла на Мінск і ўражанні ад усяго тут пазнанага і пабачанага. М.Багдановіч, паводле яго слоў, чуўся паміж намі добра, як у сям’і. “Маю толькі адно прыкрае перажыванне, якое адбірае мне спакой. Можа, вы чулі, што я ўжо даўжэйшы час перапісваўся з адной асобай з Мінска (назавём яе N). Завязалася лістоўная прыязнь, шчырасць. Вось, прыехаўшы і пазнаёміўшыся асабіста, уся мая прыязнь да яе развеялася. Не магу ёй адказаць тым самым, не магу… і гэта так мучыць! Раблю чалавеку прыкрасць… Ці ж гэта можа не балець?”

Як я пераканалася ў далейшым, чуласць Максіма на чужую крыўду была выключнай.

Час праходзіў. Камітэт Таварыства помачы ахвярам вайны вёў барацьбу з безграшоўем. Асабліва балюча было тое, што т.зв. “Таццянінскі камітэт” адмовіў нам у субсідыі на ўтрыманне дзіцячага прытулку і запрапанаваў забраць наш прытулак пад сваю непасрэдную апеку. Мы прымушаны былі згадзіцца. Але паставілі варунак, што нашы дзеці будуць вучыцца асобна – па-беларуску і вучыць іх будуць нашы вучыцелькі: Ванда Лявіцкая – дачка Ядвігіна Ш. і яе памочніца Ядзя Раткевіч. Наш прытулак на лета быў вывезены ў Карпілаўку (уласнасць Ядвігіна Ш.), і трэба было адтуль перавозіць яго ў Ратамку. Прыйшлося мне ехаць памагчы перавозіць дзяцей. Мушу зазначыць, што ўсё лета апекаваліся дзецьмі тыя ж Ванда Лявіцкая і Ядзя Раткевіч.

Дні ўжо былі кароткія, холад, а ехаць трэба было фурманкай вёрст 30. Падарожжа не вельмі мілае. Сядзелі мы гэтак у сталоўцы ў поўным складзе і гаварылі аб гэтай паездцы. Была пятніца, ехаць я мела ў суботу. Раптам М.Багдановіч кажа: “І я паеду”. Мы ўсе ахнулі. “Што вы кажаце! У такі холад! 30 вёрстаў! І не думайце!” Зазлаваў на нас Максім. “Што я – маленькі? Волі сваёй мець не магу? Сказаў паеду – і паеду: не забароніце”. Зноў пасыпаліся пратэсты. Адзін Галубок маўчаў, думаў нешта сваё. Калі ж пачалася сапраўдная сварка, Галубок абазваўся: “Ціха, ша! Супакойцеся! Я пайду і хутка вярнуся, тады пабачым”.

Не было Галубка з гадзіну. Нарэшце – крокі на сходках, адчыняюцца дзверы, уваходзіць Галубок з аграмадным кажухом! Кажухом, якія насілі вартаўнікі ў дэпо. “Маеце, дзядзька Максім, паедзеце”. Усе абступілі Галубка, дзякуючы за такое ўладжанне справы.

На другі дзень паехалі. Было ўжо цёмна. Выехалі за горад на тракт. Грукат сціх. Пачалі мы гутарку. Парушылі розныя тэмы і дайшлі да паэзіі, да яе формаў…

Раптам нашу ўвагу звярнула нейкая незвычайная чырвань на небе. Пад’ехалі далей на ўзгорак, глядзім – пажар. Гарыць вёска. Далёка ад тракту, але і так было відаць слупы агню, якія падымаліся аж да хмар. “Які жудасны вобраз! А колькі там гора людскога, колькі слёз!” – кажа Максім. Далей ехалі моўчкі. Прыехалі на месца позна. Пераначаваўшы, Максім вярнуўся ў Мінск. Я засталася.

Прытулкі “Таццянінскага камітэта” ў Ратамцы мелася наведаць сястра Льва Талстога (*маецца на ўвазе дачка пісьменніка Аляксандра (1884–1979); яна мела званне палкоўніка.* – **Рэд.**). Ладзілі спектакль-вечарынку. Наша школа мела выступіць са сваёй асобнай праграмай у беларускіх нацыянальных вопратках.

Паставілі сцэнічны абразок “Пастушка”, у дадатак былі дэкламацыі, хор. З Мінска сабраліся і мы: М.Багдановіч, сёстры Бядулі (яны прыгожа спявалі) і я. Дагэтуль стаіць у маіх вачах Максім: у белай вышыванай кашулі, падпяразаны прыгожым паяском, вясёлы. Умяшаўся ў хор… Здавалася, і ён будзе спяваць…

Скончылася ўсё позна, цягніка ўжо не было, і прыйшлося прасядзець ноч, бо спаць не было дзе. Школа беларускіх дзяцей змяшчалася ў летнім драўляным дамку – “дачы”.

Вучыцелькі мелі там маленькі пакойчык з жалезнай печкай, а класы не ацяпляліся. Мы сабраліся ў маленькім пакоі – Ванда Лявіцкая, Ядзя Раткевіч, Бядулянкі (гэтак мы называлі сёстраў Зм.Бядулі) і я. А М.Багдановіч застаўся сядзець у халодным класе. Як мы ні прасілі, нічога не памагала. “Там і так цесна”, – кажа. На працягу ночы я разы тры хадзіла намаўляць яго, каб не рызыкаваў, надумаўся… “Мы не збіраемся спаць, сядзім, гаворым – ідзём!” – “Не, – кажа Максім, – я рызыкую сваім здароўем, але не буду рызыкаваць вашым, мая хвароба заразлівая. Вы ж гэта ведаеце”.

Прыйшла зіма. Снег, маразы. Калі пасля марозу прыходзіла адліга, чырвоныя цэглы новага касцёла пакрываліся срабрыстай шэранню, і гэта было цудоўна, як у казцы. На работу пасля снедання мы з Багдановічам выходзілі разам і адразу пераходзілі на другі бок вуліцы, каб ісці каля касцёла (ён знаходзіўся амаль супраць “Беларускай хаткі”, крыху наўскос) і нацешыцца яго выглядам. Багдановіча няможна было адарваць, да таго быў захоплены. А стаяць на холадзе і вільгаці для яго было забойствам. Сказаць, што гэта для яго шкодна, нельга. Вось і прыходзілася нешта прыдумваць: або спяшацца на работу, або – што мне зімна…

Надыходзіў Новы год – 1917-ы… Пастанавілі спаткаць яго ў “Беларускай хатцы” ўсёй грамадой. Наладзіць усё і выслаць запросіны даручылі Багдановічу (…) і мне.

Сабраліся ўсе, хто толькі ў той час быў у Мінску. Прыйшлі М.Багдановіч, Ядвігін Ш., Альберт Паўловіч з дачкой Уладзяй і зяцем Ю.Фарботкам, Гадлеўскі, Ф.Шантыр (прыехаў з Бабруйска), Ус.Фальскі, У.Галубок (…) адвакат Чавусаў, Л.Заяц, В.Лявіцкая, Р.Зямкевіч, архітэктар Л.Дубейкаўскі, мая маці Э.Сівіцкая і я. Настрой быў мілы, і ўсе былі рады з гэтай імпрэзы.

Далей усё ішло па-ранейшаму, толькі, на жаль, Багдановіч чуўся слабейшым. Калі ў сталоўцы ўсё заціхла, усе разыходзіліся, ён заставаўся і дапозна сядзеў у бюро Камітэта. Гэта быў невялікі пакой з балконам. Знаходзіўся ён паміж сталовым пакоем, дзе мы з мамай жылі. Там стаяў стол і глыбокі, мяккі фатэль. У гэтым фатэлі сядзеў Максім доўгія гадзіны – пацёмку. Я не раз прапанавала запаліць лямпу, але не хацеў. “Мне так тут добра”, – казаў.

Прачуваўся ўжо блізкі канец вайны і змены, якія могуць наступіць у жыцці народаў. Мы часта гаварылі аб тым, што, можа, хутка дачакаемся сваіх беларускіх школ, а падручнікаў да навукі няма. Лемантары сякія-такія былі, а вось чытанкі пасля лемантара няма.

Трэба было падбіраць матэрыялы. М.Багдановіч меў заняцца паэзіяй – падбіраць адпаведныя вершы з беларускай літаратуры, рабіць пераклады і пісаць іх самому.

Шмат вечароў прасядзелі мы ў сталоўцы ў позняя гадзіны, калі нашы штодзённыя вячэрнія госці разыходзіліся.

Кожны з нас ужо пакрысе напісаў, але далей ужо супольна працаваць не прыйшлося. Надыходзіла вясна, дажджы, вільгаць. Максім чуўся горш. Тэмпература падымалася… Трэба было яму змяніць клімат. Пастанавілі на супольных нарадах, што паедзе ў Ялту. Здабылі грошы, прыгатавалі што трэба на дарогу, і ў канцы лютага наступілі ад’ездзіны. Мы ўсе хацелі правесці яго на цягнік, але Максім запратэставаў: “Развітаемся тут, у “Беларускай хатцы”. Мне будзе цяжэй развітвацца з вамі ўсімі пры натоўпе чужых людзей”. Жагналі мы яго са слязамі на вачах, як бы прадчувалі, што жагнаем яго назаўсёды. Маці мая абняла яго і пацалавала галаву. Мне ён сказаў: “Я вам напішу”. Не напісаў. Можа, не хапіла сілы… а можа, і напісаў, а чужыя людзі не паруліліся выслаць? Хто ведае?

Але, калі прыйшла вестка аб яго смерці, такой цяжкай, у адзіноце, мы не маглі сабе дараваць зробленай памылкі. Нашто было выпраўляць яго, не парадзіўшыся з доктарам, не маючы пэўнасці, што гэта яму дапаможа. Як недарэчна. Трэба было запэўніць: тут на месцы больш выгод, больш сардэчнай апекі. Смерць, на жаль, яго не мінула б, але няхай бы паміраў паміж нас, паміж сваіх, адданых яму шчыра прыяцеляў, у роднай старонцы. Ён жа гэтага хацеў… А можа, згадзіўся ехаць, маючы крыху надзеі, што яшчэ падлечыцца і вернецца? Хто ведае?..

Прайшло паўвека, а ўспаміны аб гэтых пяці месяцах усё жывыя.

*1967.*

***

Змітрок Бядуля (сапр. Самуіл Плаўнік) (1886–1941) – паэт і празаік.

Уладзіслаў Галубок (1882–1937) – пісьменнік, рэжысёр, загінуў у ГУЛАГу.

Усевалад Фальскі (1886–?) – грамадска-палітычны і дзяржаўны дзеяч.

Ядвігін Ш. (сапр. Антон Лявіцкі) (1869–1922) – пісьменнік, грамадска-палітычны дзеяч.

Ванда Лявіцкая (1895–1968) – пісьменніца, педагог, дачка Ядвігіна Ш., жонка Я.Лёсіка.

Язэп Лёсік (1883–1940) – пісьменнік, мовазнавец.

Ядвіга Раткевіч – доктар медыцыны. Памерла ў 1970 годзе.

Альберт Паўловіч (1875–1951) – паэт, драматург.

Язэп Шантыр (1887–1920) – паэт, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч, муж З.Верас. Расстраляны бальшавікамі ў 1920 годзе.

Віктар Чавусаў (1871–1920) – юрыст, журналіст.

Леанард Заяц (1890–1935) – сакратар урада БНР.

Лявон Дубейкаўскі (1869–1940) – паэт, педагог, архітэктар.

ПАЗІЦЫЯ

## Моладзь Партыі БНФ запускае акцыю «Мы – Беларусь!»

Такім чынам маладыя актывісты хочуць адказаць Камуністычнай партыі Беларусі і яе маладзёжнай арганізацыі, якая правяла мітынг «Мы – СССР» і запусціла акцыю сэлфі #Я_СССР.

*“Яны публічна выступілі за адраджэнне краіны, якой не існуе ўжо 25 гадоў. Але мы, моладзь Партыі БНФ, ведаем дакладна, што наша Радзіма – гэта Рэспубліка Беларусь. І наша гісторыя – гэта Полацкае княства, Турава-Пінскае княства, Вялікае Княства Літоўскае, БНР і БССР”*, – гаворыцца ў прэсрэлізе арганізацыі.

У межах акцыі «Мы – Беларусь!” маладыя сябры Партыі БНФ прапануюць рабіць фотаздымкі каля помнікаў выбітным беларусам, старажытных замкаў і палацаў і г.д. *“Рабіце такія фотаздымкі разам з сябрамі, адны і выкладайце ў сацыяльныя сеткі з хэштэгам #Я_Беларусь і рабіце невялікае апісанне фота: чаму незалежнасць вельмі каштоўная рэч для вас, чаму вы любіце Беларусь, – а таксама заклікайце сваіх сяброў і знаёмых зрабіць гэта”*, – прапаноўваюць маладзёжныя актывісты Партыі БНФ.

АСАБІСТАЕ

## Дзмітрый Шэпелеў запрашае на сустрэчу

*Напярэдадні Новага года ў сталічнай кнігарні «Кнігі & кніжачкі» пройдзе сустрэча з тэлевядучым Дзмітрыем Шепелевым. Ён прадставіць кнігу «Жанна. Любовь и болезнь в истории жизни Жанны Фриске».*

У Маскве прэзентацыя кнігі ўжо адбылася. Прычым папярэдне прайшла шырокая кампанія ў СМІ. *«Гэтая кніга адрасавана ўсім тым, хто сутыкнуўся з праблемай раку: хто змагаецца сам, хто дапамагае блізкаму чалавеку»*, – казаў Шэпелеў.

Кніга «Жанна» – гэта прыкладна 250 старонак, на якіх Дзмітрый Шэпелеў падрабязна распавядае сваю гісторыю і робіць устаўкі: уключае ў аповед інструкцыі, падказкі і даведкі для тых, хто сутыкнуўся з ракам, – да каго звярнуцца, куды патэлефанаваць, якія кнігі пачытаць, якімі інтэрнэт-рэсурсамі скарыстацца.

Як вядома, 7 красавіка 2013 года ў Маямі ў Жаны Фрыске і тэлевядучага мінчаніна Дзмітрыя Шэпелева, які шмат гадоў працуе ў Маскве, нарадзіўся сын Платон. 15 чэрвеня 2015 года Жанна памерла на 41-м годзе жыцця з-за раку галаўнога мозгу.

Прэзентацыя кнігі Дзмітрыя Шэпелева адбудзецца 30 снежня.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Станіслаў ШУШКЕВІЧ:

## «Пасля аперацыі прачытаў за ноч кнігу правым вокам»

*Першы кіраўнік незалежнай Беларусі распавёў, чаму ён не захацеў папраўляць зрок у дзяржаўнай медыцынскай установе.*

– Адно вока мне ўжо прааперыравалі ў медыцынскім цэнтры “Новое зрение”, – распавёў Станіслаў Станіслававіч “Народнай Волі”. – І зрок значна палепшыўся! Чаго варты хаця б той факт, што я ўпершыню за пяць гадоў прачытаў за ноч кнігу правым вокам. А на 10 студзеня ў тым жа цэнтры прызначана аперацыя і на другое вока. Будуць замяняць хрусталік.

**– Калі ў вас пачаліся праблемы са зрокам?**

– Напэўна, пасля таго як набыў для працы камп’ютар з вялікім экранам. Пачаў заўважаць, што газету ўжо магу чытаць з цяжкасцю – альбо з лупай, альбо з моцнымі акулярамі. Мне такая сітуацыя, шчыра кажучы, абрыдла, таму і рашыўся на аперацыю. І не шкадую. Магу сказаць, што ў цэнтры «Новое зрение» добрыя прафесіяналы.

**– А ці маглі вы звярнуцца ў дзяржаўную медыцынскую ўстанову, скажам, у лечкамісію?**

– Маю на гэта поўнае права, але не захацеў. Тыя мае знаёмыя, хто звяртаўся ў лечкамісію за такой дапамогай, што патрабавалася мне, засталіся незадаволеныя вынікамі. Таму я паслухаў параду іншага чалавека – майго кардыёлага.

**– Ці пазналі вас у прыватным медыцынскім цэнтры?**

– Пазналі і вельмі добра паставіліся. Дарэчы, калі параўноўваць беларускія кошты на такія аперацыі з аналагічнымі ў Літве, Польшчы альбо ў ЗША, то ў нас атрымліваецца танней. І наогул мне там усё спадабалася – і арганізацыя працэсу, і тэхнічны складнік, і прафесіяналізм персаналу. Разумна зробленая структура.

**Алесь СІВЫ.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА “Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў” Васіль ВАЛАСЮК.

### На сыры знайшла цвіль

*Купіла ў магазіне расфасаваны кавалак сыру, дата фасоўкі адпавядала дню пакупкі. Аднак дома знайшла на сыры цвіль. Чэк не захаваўся. Што рабіць?*

**Валянціна ГОЛУБ, г. Калінкавічы.**

– У такой сітуацыі можна вярнуцца ў магазін і паказаць тавар касіру, нават калі не захаваўся чэк. Вам павінны вярнуць грошы.

### Кашалёк не спадабаўся

*Набыў новы кашалёк. Хацеў падарыць маці, але ёй не спадабаўся. Ці могуць афарміць вяртанне грошай за тавар?*

**Аляксей ПІНЧУК, г.Лунінец.**

– Могуць на працягу 14 дзён пасля пакупкі.

### На аўтамыйцы пашкодзілі аўтамабіль

*У сэрвісным цэнтры мне пашкодзілі аўтамабіль, калі яго мылі. Але работнікі цэнтра сцвярджаюць, што гэта машына была няякасна пафарбавана. Ці абавязкова правядзенне экспертызы? Як мне правільна дзейнічаць?*

**Андрэй АНТОНАЎ, Мінск.**

– У Мінску можаце звярнуцца да экспертаў, якія знаходзяцца на вуліцы Чырвонай, 15, і атрымаць неабходнае заключэнне. Пасля гэтага вы зможаце атрымаць кампенсацыю з сэрвіснага цэнтра.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



НЕСТАНДАРТ

# Кругосветка Екатерины Бегун и ее дочерей

(Продолжение. Начало в №100.)

*Как уже сообщала «Народная Воля», три белоруски – Екатерина, Елизавета и Алиса Бегун – отправились в путешествие вокруг земного шара, которое будет продолжаться до 10 июля 2017 года. «Народная Воля» следит за подробностями первой женской кругосветки.*

### Поднебесная

– Нам предстояло добраться до Пекина. В 14.30 мы залезли в популярный в Китае sleep bus. Это очень круто! Три ряда чего-то вроде двухъярусных кроватей, где каждое место приспособлено под изгибы тела, расположены вдоль автобуса, ремни безопасности, чтобы пристегнуться во время тряски, и китайская поп-музыка, которая будит тебя во время остановок. А выехав в пустыню, можно увидеть со второго яруса целый парк юрского периода! Здесь когда-то нашли большое количество окаменелых останков динозавров. Вот китайцы и решили обозначить это место десятками железных статуй. Просто, но гениально. Когда видишь посреди пустыни застывшего в движении раптора на фоне ветряных мельниц, впечатление потрясающее!

Во время одной из остановок мы вышли в придорожную забегаловку. Еда тут была все еще монгольская, поэтому мы уверенно ткнули в буузы (огромные манты) и взяли немного риса. Какой-то мужик со смехом сказал что-то официантке про наш паек, но мы не обратили особого внимания. Сели за стол и откусили от бууза... Я так предвкушала, как поем горячего сочного мяса с бульончиком внутри огромного пельменя, – а он совсем холодный! Что это? Оказалось, что мы заказали два больших шара обыкновенного теста. И стало понятно, почему тот мужик ржал: во дуры, взяли рис и два куска теста!

Ну что же… Пекин, мы едем!

В Китае запрещены многие сайты. Facebook, youtube, google, понятное дело, gmail. В первый день нам пришлось потратить немало времени на то, чтобы скачать обходные программы. Обычно получается не с первой попытки. Но наличие программ не спасает от ужасно медленного интернета на всей территории страны…

…Я сижу на сумках посреди китайской улицы. Идет уже третий час поиска жилья. Навигатор завел нас в глубину какого-то советского квартала. Показываем адрес китайцам: старички на нас кричат, многие игнорируют, и лишь некоторые пытаются тыкнуть куда-нибудь пальцем. В итоге постоянно ходим по кругу.

На английском почти никто не говорит. Когда что-то спрашиваешь, тебе быстро отвечают на китайском и в такт машут руками.

Найти в Пекине жилье за разумные деньги день в день нереально. Нам сказали, что в комнате, которую мы хотели снять, отключили электричество (на самом деле хозяин просто сдал ее другому жильцу). Комната, которую нам предложили взамен, оказалась в два раза меньше. В ней буквально помещались только кровать и матрас. На кухне можно было, вытянув руки в стороны, упереться в противоположные стены. Туалет заслуживает отдельного описания. Точнее душ. Открываете дверь: малюсенькая комната с унитазом. Если перевести взгляд чуть-чуть выше, то вы увидите свисающий душ. А в полу – дырка для слива воды. Это самая обыкновенная китайская квартира, где нередко живут целыми семьями с бабушками-дедушками. Такие «удобства» – расплата за миллиардное население.

Было очень сложно раздеться в туалете, повесить одежду так, чтобы на нее не попадала вода, мыться, стараясь не дотрагиваться до унитаза… Но знаете, все-таки именно так погружаешься в местную культуру. Не пробуя еду, не исследуя памятники архитектуры, нет. Просто поживите в шкуре рядового представителя народа – и поймете его гораздо лучше, чем из окна номера в отеле.

Естественно, после такого погружения в китайский быт нам захотелось нормально поесть.

Уличной еды в Пекине очень много. Вопрос лишь в том, хватит ли у вас смелости ее попробовать. Жареное мясо непонятного происхождения (очень часто не так уж и хорошо прожаренное, что видно невооруженным глазом) на шпажке, протухшие яйца (их особенно любят набирать в пакетики «навынос» китайцы в деловых костюмах) и много-много пельмешек с разной начинкой. Последние, которые мы попробовали, были с какими-то интересными водорослями…

В кафе и ресторанах хит – огромная тарелка супа с лапшой, мясом и овощами. Одной порции хватает, чтобы наесться. Это то, чем мы питались в Пекине. Хотя я не сказала бы, что было вкусно (сейчас даже не могу вспомнить, ела ли я что-нибудь в Китае, что можно было бы назвать вкусным). Выучите, а лучше – запишите, как на китайском будет «не острый». Потому что если вам попадется какой-нибудь острый суп (а понять, острый он или нет, вы сможете только на этапе поглощения), то это испытание для самых сильных. И будьте внимательны с приправами, которые вы самостоятельно добавляете в блюда! Лучше сначала попробовать ма-а-аленькую ложечку, и если у вас не пошла кровь горлом – дерзайте.

Кстати, в кафе очень трудно понять, что же вы заказываете, без переводчика. Меню крайне редко переводится на английский, остается ориентироваться по картинкам. Как-то мы заказали супчик с курицей. Так вот оказалось, что то, что мы приняли на картинке за курицу, – это омлет. С курицей тут вообще беда.

Магазины – это отдельное приключение. Хотите купить что-нибудь знакомое, чтобы приготовить любимый завтрак? Это вряд ли. Все совсем другое. Чаще всего со специфическими приправами и запахом. Все то, что нам кажется обыкновенным, здесь стоит бешеных денег, и на упаковке нередко написано: «как в Европе». Проверенное вложение денег – лапша быстрого приготовления, чтобы просто утолить голод.

Захотелось чего-нибудь сладенького на десерт? Легче во время десерта слетать в другую страну. Сладковатые булочки из риса, соленое печенье… На упаковке изображен шоколад? 99% вероятности, что внутри вы найдете что-то похожее на бобовую пасту. Любой знакомый десерт вроде шоколадного торта, чизкейка или пончика стоит в 10 раз больше.

Приготовьтесь в Китае почувствовать себя звездой! Особенно если у вас светлые волосы, светлая кожа и голубые глаза. Я не думала, что в таком туристическом городе, как Пекин, китайцы все еще удивляются «белым людям». Но это так. Особо смелые могут подойти к вам и попросить сфотографироваться.

Мы зашли в полюбившийся ресторанчик, чтобы съесть очередную порцию супа. Блюда нам принес сам повар… а потом остался наблюдать за нами из-за шторки. Так стыдливо, одним глазом. Потом осмелел и встал посреди зала. Через минут 15 устал и сел за соседний с нами столик. Наш и так несовершенный навык владения палочками от такого внимания совсем исчез, пришлось доедать лапшу ложкой.

Кстати, о палочках. Во время нашей поездки из Пекина в Шанхай мы сделали остановку, чтобы поесть. 20 минут. Пока мы выбирали что-нибудь не совсем уж «интересное», пока разобрались, где платить… В общем, у нас еще почти полные порции, а водитель автобуса уже стучит пальцем по часам и зовет нас занять свои места. А кушать-то хочется! От страха остаться голодными мы за оставшиеся две минуты доели весь наш рис. Палочками!

Хочется ли вернуться в Пекин? Нет. Да и советовать кому-то туда съездить, к сожалению, не можем. Разве что ради Великой Китайской стены. Общее впечатление от города оказалось не очень приятным. Смог, зябко...

Ах, да! Не забывайте, что, как только вы пересекаете границу Китая, вы попадаете в коммунистическую страну. Члены партии с красными повязками на плече, следящие за порядком (в основном молодежь), советская архитектура, доски почета и культ личности Мао.

**(Продолжение в следующих номерах «Народной Воли».)**

ПЫТАННЕ–АДКАЗ

## «Раўбічы» – галоўны прэтэндэнт на этап Кубка свету па біятлоне?

*“У вашай газеце пісалі: у выпадку, калі этап Кубка свету па біятлоне не будзе праходзіць у Цюмені, то верагодна, што яго перанясуць у Беларусь. Наколькі гэта рэальна?”*

**Сяргей КОРЗУН, Мінск.**

– Так, Расія ўжо апавясціла Міжнародны саюз біятланістаў (IBU), што не будзе ў 2017 годзе праводзіць юніёрскі чэмпіянат свету, які павінен быў прайсці ў Востраве, і этап Кубка свету па біятлоне ў Цюмені.

Як вядома, IBU пачаў расследаванне ў дачыненні да 29 расійскіх біятланістаў, якія былі згаданы ў дакладзе Сусветнага антыдопінгавага агенцтва пра допінг у расійскім спорце. Расследаванне таксама пачнецца і ў дачыненні да Расійскага саюза біятланістаў. Акрамя таго, IBU прыняў рашэнне часова адхіліць ад спаборніцтваў двух расійскіх біятланістаў, у дачыненні да якіх Міжнародным алімпійскім камітэтам было ўжо распачата расследаванне. Імёны гэтых спартсменаў не называюцца.

Але рашэнне аб тым, дзе будуць праводзіцца гэтыя спаборніцтвы, будзе прынята пазней. Адным з магчымых месцаў правядзення этапу Кубка свету называліся і “Раўбічы”. Спадзяёмся, што беларускія спартыўныя чыноўнікі зробяць усё магчымае, каб прэстыжныя спаборніцтвы прайшлі ў нашай краіне.

## На «Дынама» адбудзецца адкрыццё Еўрапейскіх гульняў-2019

*“Калі ўлічваць, колькі працягваецца рэканструкцыя сталічнага стадыёна “Дынама”, яго ўжо можна назваць шматпакутным. Чытаў у вашай газеце, што арэну павінны здаць у наступным годзе. Планы не змяніліся?»*

**Валянцін ПЕТРАШЭЎСКІ, г.Дзяржынск.**

– Днямі з гэтай нагоды выказаўся старшыня Мінгарвыканкама **Андрэй Шорац.** Паводле яго слоў, арэна, як і планавалася, пачне дзейнічаць да канца 2017 года, і адкрыццё другіх Еўрапейскіх гульняў-2019 пройдзе менавіта на сталічным стадыёне «Дынама». Таксама тут пройдзе частка спаборніцтваў.

Акрамя таго, як паведаміў Шорац, у сярэдзіне 2018 года ў Мінску будзе здадзены ў эксплуатацыю Цэнтр мастацкай гімнастыкі.

## Мары аб беларускім футбольным тэлеканале

*“Знаёмы распавёў, што ў Беларусі можа быць створаны свой футбольны тэлеканал. Гэта праўда?”*

**Аляксандр САЎЧЫЦ, г.Маладзечна.**

– Падчас анлайн-канферэнцыі з балельшчыкамі ў першага намесніка старшыні Беларускай федэрацыі футбола **Сяргея Сафар’яна** запыталіся наконт павышэння якасці трансляцый футбольных матчаў.

Адказваючы на гэтае пытанне, футбольны чыноўнік распавёў і пра планы федэрацыі: *“Калі казаць пра якасць трансляцый, то тут усё залежыць ад тэлевізіёншчыкаў, і ў іх бізнес умешвацца няправільна. Мы са свайго боку зараз сур’ёзна займаемся арганізацыяй кампаніі, якая будзе забяспечваць здымкі ў HD-якасці. Гэтае пытанне курыруе Уладзімір Беражкоў. Спадзяюся, усё ў нас атрымаецца. Іншая справа, ці захочуць тэлекампаніі набываць наш прадукт і ставіць яго ў сябе ў праграмах? Магчыма, падумаем над адкрыццём свайго тэлевізійнага канала”.*

## Кучук – прэтэндэнт на пасаду галоўнага трэнера зборнай Беларусі па футболе?

*“Ходзяць чуткі, што на месца Аляксандра Хацкевіча ў нацыянальную каманду можа прыйсці беларускі спецыяліст Леанід Кучук, які апошнім часам працаваў у расійскіх клубах “Кубань” і “Локомотив”. Адкуль “ногі растуць”?”*

**Віталь ЛЯШКЕВІЧ, г.Слонім.**

– Відаць, такія чуткі з’яўляюцца таму, што Леанід Кучук ужо паўтара года застаецца без працы, хаця спецыяліст ён і на самай справе нядрэнны. Але няўдзячная справа – бегчы наперадзе воза, бо Беларуская федэрацыя футбола разглядае некалькі кандыдатур на пасаду настаўніка зборнай.

Тым часам сам Кучук пра розныя прапановы наконт працы кажа так: *“Трэніравацца можна па-рознаму. Абы-дзе і абы-як мне не хочацца. Прапановы час ад часу ёсць. То адмаўляюся, то вядзём размовы. Гэта складаны працэс. Ад статусу кандыдата да падпісання кантракта – доўгі шлях. І вялікая праца розных людзей. А здараецца, што і некаторыя іншыя людзі далучаюцца. Кажуць: “Мы можам усё вырашыць!” Потым гэтыя людзі знікаюць. Гэта жыццё. Таму да цяперашняга перыяду я стаўлюся спакойна”.*

Да слова, ходзяць чуткі не толькі пра тое, што Кучук узначаліць зборную Беларусі, але і пра тое, што ён можа працягнуць трэнерскую кар’еру ў “Анжы” з Махачкалы. Час пакажа…

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВІНШУЕМ!

## Уладзіслаў Ганчароў і Марыя Мамашук – лепшыя

*Журналісты падвялі вынікі спартыўнага 2016 года.*

Паводле вынікаў апытання прадстаўнікоў СМІ, якое праводзіла «Спортивная панорама», бясспрэчную перамогу атрымаў трыумфатар Алімпіяды батуціст **Уладзіслаў ГАНЧАРОЎ** *(на фота).*

*«Ён аказаўся адзіным, каго ў свае спісы ўключылі ўсе без выключэння рэспандэнты, прычым пераважнай большасцю: 71 чалавек паставіў на першае месца, а астатнія – не далей чым на чацвёртае*, – паведамляе sport-panorama.by. – *Гэты віцебскі хлопец, які нядаўна адзначыў свой 21-ы дзень нараджэння, у Рыа скарыў усіх не толькі зайздросным майстэрствам, але і стальнымі нервамі. Акрамя таго, і на апошнім чэмпіянаце Еўропы ў Вальядалідзе Ганчароў выйграў у індывідуальных і сінхронных скачках і стаў сярэбраным прызёрам у камандных спаборніцтвах».*

Другое месца ў журналісцкім апытанні заняў 40-гадовы **Іван ЦІХАН**.

Трэцюю суму паводле вынікаў апытання набрала прадстаўніца жаночай барацьбы **Марыя МАМАШУК**, якой дасталася званне лепшай спартсменкі года.

Лепшай гульнявой камандай названа жаночая зборная Беларусі па баскетболе, а лепшым трэнерам 2016 года, паводле версіі журналістаў, стала **Вольга УЛАСАВА**. Гэта яе вучань Уладзіслаў Ганчароў заваяваў на Гульнях у Рыа адзіны для Беларусі залаты медаль.

СВЕДЧАННЕ ГІСТОРЫІ

## Новы год = 1 студзеня?

Многія нашы суайчыннікі ідуць следам за расійскай версіяй развіцця навагодняй тэмы. І… памыляюцца.

Традыцыя лічыць пачаткам года 1 студзеня ўзыходзіць да распараджэння рымскага імператара Юлія Цэзара, які ў 45 годзе да нараджэння Хрыстова ўвёў каляндар, названы ў гонар аўтара. Першыя сведчанні пра адлік года ад 1 студзеня згодна з хрысціянскім календаром на беларускай зямлі адносяцца да XII стагоддзя. Тым не менш у народзе гэта яшчэ доўга не прыжывалася. Да таго ж у хрысціянстве адбыўся раскол (канчаткова ў XI стагоддзі), а праваслаўнымі было прынята весці гадавы адлік ад 1 верасня (гэта дзень пачатку заснавання свету).

Пачынаючы з XIV стагоддзя Вялікае Княства Літоўскае ішло на збліжэнне з Польскай Каронай. Апошняя імкнулася распаўсюджваць свае ўплывы на ўсход. У тым ліку – праз экспансію каталіцызму. Да каляндарнай сістэмы спрычынілася Люблінская унія (1569). Пасля яе, у 1583 годзе, агульны для абедзвюх дзяржаў кароль Сцяпан Батура загадам увёў Грыгарыянскі каляндар (уведзены папам Грыгорыем XIII за год перад тым). З тых пор Новы год у Беларусі афіцыйна і пачалі адзначаць 1 студзеня. Дарэчы, большасць еўрапейскіх краін пераходзіла на сучасную традыцыю святкавання 1 студзеня на працягу XVI–XVII стагоддзяў. Таму ВКЛ, як варта лічыць, знаходзілася ў тагачасным цывілізацыйным трэндзе.

Зразумела, адразу прышчапіцца традыцыя не магла. Таму даследчыкі лічаць, што быў час, калі беларусы маглі адзначаць Новы год ажно тры разы: 1 студзеня, 1 сакавіка і 1 верасня.

Дапамагло схіліць народныя масы да першастудзеньскага пачатку года ўніяцтва, якое ўзнікла ў 1596 годзе і перавяло большасць праваслаўных пад каталіцкую юрысдыкцыю.

Асобна зазначым, што ў Расіі адлік новага года з 1 студзеня быў уведзены толькі ў 1700 годзе ўказам Пятра І, але – паводле юліянскага календара, які ў сваю чаргу быў зменены на Грыгарыянскі ў 1918 годзе бальшавікамі. Гэта значыць, беларусы Новы год 1 студзеня па сучасным календары сустракалі на 335 гадоў раней за расіян.

Праўда, пасля падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. Таму функцыянаванне грамадства паводле Грыгарыянскага календара было перарвана.

Зрэшты, для беларускага сялянства вышэйапісаныя каляндарныя пертурбацыі не мелі прынцыповага значэння. Яно жыло ў культурнай парадыгме той рэлігійнай канфесіі, да якой належала. Панавалі ж праваслаўе, уніяцтва (1596–1839) і каталіцызм. Важнейшае значэнне па-ранейшаму мелі элементы язычніцтва. Таму тая ж упрыгожаная ялінка (яна з’явілася ў нас толькі ў XIX стагоддзі, але ў сялянскую хату прыйшла толькі ў XX) прымяркоўвалася не да Новага года, а да Каляд. Таму і святкаванне Новага года як нейкай урачыстасці не праводзілася. Адпаведна не была распрацавана “праграма” свята, і Дзеда Мароза не існавала. Затое яго функцыі (перш за ўсё выкананне жаданняў і дарэнне прэзентаў) выконваў Святы Мікалай. Яго прыход спачатку адбываўся 6 снежня. Але з’яўленне Святога Мікалая было перасунута да Раства Хрыстова ў сувязі з тым, што Рэфармацыя хрысціянства, якая асабліва разгарнулася па Еўропе ў XVI–XVII стагоддзях, не ўхваляла ўшанавання святых. Гэтым самым фактычна стварылася глеба для ўзнікнення Дзеда Мароза.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК.**

ДА ВЕДАМА!

## Як будуць працаваць бальніцы і паліклінікі

Міністэрства аховы здароўя напамінае пра змены графіка работы ўстаноў аховы здароўя ў выхадныя і святочныя дні ў студзені 2017 года.

У прыватнасці, работа бальнічных устаноў аховы здароўя будзе арганізавана наступным чынам:

1 студзеня – па графіку святочнага дня;
2 студзеня – па графіку рабочага дня;
7 студзеня – па графіку святочнага дня;
21 студзеня – па графіку суботняга дня.

Амбулаторна-паліклінічныя, санітарна-эпідэміялагічныя ўстановы аховы здароўя, аптэкі, арганізацыі пералівання крыві, медыцынскай тэхнікі і іншых будуць працаваць:

1 студзеня – па графіку святочнага дня;
2 студзеня – па графіку суботняга дня;
7 студзеня – па графіку святочнага дня;
21 студзеня – па графіку рабочага дня.

НА ЗАМЕТКУ

# За окном сыро и промозгло. Глинтвейн – лучшее средство согреться



### Как приготовить вкусный глинтвейн

Для приготовления глинтвейна идеально подходят красные сухие вина, а специи всегда используются цельные – молотые сделают его мутноватым.

И небольшой совет: глинтвейн отлично согревает, поэтому перелейте напиток в термос и возьмите с собой для прогулки на свежем воздухе.

### Классический глинтвейн

Пряный, ароматный горячий напиток с пропитанными кусочками апельсинов и яблок – такой, каким мы его любим.

*Красное сухое вино – 750 мл, вода – 750 мл, яблоки – 2 шт., апельсины – 2 шт., специи – по вкусу, черный чай – 1 ст. л., каркаде – 1 ст. л., мед – 200 граммов.*

Воду довести до кипения, чай и специи всыпать в воду, влить вино, добавить нарезанные фрукты и мед. Подогреть до 70–80 градусов, снять с огня. Разлить и наслаждаться.

### Кофейный глинтвейн

Для кофеманов предлагаем вариацию глинтвейна с добавлением кофе и коньяка, но с меньшим количеством специй.

*Красное сухое вино – 750 мл, коричневый сахар – 150 г, коньяк – 150 мл, кофе – 300 мл, палочки корицы – 2 шт.*

Два стакана натурального кофе, коньяк, красное вино и сахар смешать в сотейнике, подогреть до 70 градусов вместе с палочками корицы или другими специями по вкусу. Подавать горячим.

### Глинтвейн из белого вина с цитрусовым ликером

Глинтвейн из белого вина отличается большей сладостью и деликатностью, а в сочетании с цитрусовым ликером становится просто божественным напитком.

*Белое вино – 750 мл, сахар – 75 г, лимонная цедра – по вкусу, корица в палочках – 1 шт, цитрусовый ликер – 150 мл.*

Нагреть на медленном огне до 70 градусов смесь белого вина, сахара и специй. Цитрусовый ликер разлить по стаканам и дополнить горячей смесью.

### Белый глинтвейн

*Белое сухое вино – 750 мл, сахар – 100 г, вода – 0,5 ст., лимон – 1 шт., корица, гвоздика.*

Лимон порезать ломтиками, залить водой, добавить пряности, сахар, довести до кипения. Добавить вино, подогреть.

### Несколько советов по приготовлению глинтвейна

* Вино не следует доводить до кипения, а лишь подогревать.

* Выбор вина зависит от рецепта и от вашего вкуса, но чаще всего используются красные сухие вина.

* Перед подачей глинтвейн нужно процедить, чтобы напиток стал прозрачным и сверкающим.

* Пьется глинтвейн горячим, желательно из керамических чашек, которые дольше сохраняют тепло и неповторимый аромат напитка.

* Пряности необходимо добавлять осторожно – нельзя допустить передозировки. Лучше добавить меньше, чем допустить перенасыщенность – иначе вы испортите напиток.

Теплых вам воспоминаний о предстоящих зимних днях вместе с чашечкой горячего глинтвейна!



КРЫЖАВАНКА

# «Усё лятуць і лятуць тыя коні»

*Да 125-годдзя з дня нараджэння М.Багдановіча*



**Па гарызанталі:** 3.“І пільна ... другі ўжо год пішу:// Старанна літары малыя вываджу” – з верша Максіма Багдановіча “Летапісец”. 7.“Як вее свежасцю яе краса жывая!//Як радасна далей спяшыць ... мая!” – з верша “Кніга”. 9. ... Мякота – імя і дзявочае прозвішча маці паэта, якая паходзіла са старажытнага шляхецкага роду. Бацька яе, Апанас, ураджэнец Уздзеншчыны, пахаваны ў г.Чэрвені (раней – Ігумен). 10.Першы друкаваны твор паэта, які быў апублікаваны ў газеце “Наша Ніва” ў 1907 годзе. 11.“Не згасла ... ! ... гляне,//Усіх падыме ада сна” – з глыбока патрыятычнага верша М.Багдановіча “Кінь вечны плач свой аб старонцы!”. 13.Узвышэнне, зробленае з насыпной зямлі, гравію, пяску. 16.Тое, што і вохра. 17.“Здароў, марозны звонкі вечар!// Здароў, скрыпучы, мяккі ...” – з верша М.Багдановіча “Зімой”. 20.Дзеянне, накіраванае на дасягненне пэўнай мэты. 22.Усё воднае покрыва Зямлі. 24.“... чыстае красы” – назва кнігі серыі “Жыццё знакамітых людзей”, прысвечанай М.Багдановічу. 28.Час уборкі збожжавых культур. 29.“І тчэ, забыўшыся, ...,// Заміж персідскага узора,// Цвяток радзімы васілька” – з верша “Слуцкія ткачыхі”. 30.Прыстасаванне ў машынах, механізмах, якое перашкаджае руху зубчастага кола назад.

**Па вертыкалі:** 1.Тое, што і яма (разм.). 2.“Шчокі ружавеюць –//... хлопцаў грэюць” – з верша А.Дзеружынскага “Першы снег”. 4.Уплывовая асоба (разм.). 5.Шматгадовы палярны лёд. 6.Сёмая нота музычнай гамы. 7.“І пайшоў на ... мора сіняга//Страцім-лебедзь – моцны, горды птах” – з верша М.Багдановіча “Страцім-лебедзь”. 8.Імя бацькі Максіма Багдановіча, беларускага этнографа, фалькларыста, які нарадзіўся ў в.Халопенічы Крупскага раёна. 11.“Жывое ў вяках беларускае ... –//Народа душа і народа хвала” – з верша А.Бачылы “Матчына мова”. 12.Вадаплаўная птушка сямейства качыных. 14.“Кліча яго рэчка,//Цягнуць ... з дому” – з верша Я.Коласа “На рэчцы зімой”. 15.Дарога, па якой гоняць жывёлу. 18.Зборнік вершаў М.Багдановіча, выдадзены ўпершыню ў Вільні пры грашовай падтрымцы Магдалены Радзівіл. 19.Паганяты сабак або аленяў, запрэжаных у нарты. 21.“Усё лятуць і лятуць тыя ...,// Срэбнай збруяй далёка грымяць” – з верша “Пагоня”, які стаў амаль гімнам для нацыянальна свядомай часткі грамадства. 23.Рэальнасць, рэчаіснасць. 25.Вершаваная двухскладовая стапа з націскам на другім складзе. 26.“... плыве над зямлёй, сее росы,//... шапоча русалкам: “Засніце” – з верша М.Багдановіча “Над возерам”. 27.Майстар сваёй справы.

### АДКАЗЫ

**Па гарызанталі:** 3.Летапіс. 7.Душа. 9.Марыя. 10.“Музыка”. 11. Сонца. 13.Насып. 16.Охра. 17.Снег. 20.Акцыя. 22.Акіян. 24.Пясняр. 28.Жніво. 29.Рука. 30.Сабачка.

**Па вертыкалі:** 1.Яміна. 2.Лыжы. 4.Туз. 5.Пак. 6.Сі. 7.Дно. 8.Адам. 11.Слова 12.Нырэц. 14.Санкі. 15. Пагон. 18.“Вянок”. 19.Каюр. 21.Коні. 23.Ява. 25.Ямб. 26.Ноч. 27.Ас.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**
*г.Дзяржынск.*



ЗОРКІ

## Азаранка бярэ паўзу да 2018 года

У адрозненне ад другой славутай спартсменкі – Дар'і Домрачавай, якая праз тры месяцы пасля нараджэння дачушкі збіраецца вярнуцца ў вялікі спорт і ўзяць удзел ужо ў студзеньскім этапе Кубка свету па біятлоне – Вікторыя Азаранка, якая нядаўна стала мамай, паведаміла, што плануе выступіць у турніры ў Брысбене толькі ў студзені 2018 года.

Дарэчы, славутая тэнісістка адзначыла, што не зможа быць у Мінску 11 і 12 лютага і назіраць за гульнёй жаночай нацыянальнай каманды ў рамках 1-га круга Сусветнай групы Кубка федэрацыі.



БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Как избавиться от боли?



*Очень часто, испытывая сильный телесный или душевный дискомфорт, мы просто не знаем, как с этим справиться. Вроде бы ситуация не так серьезна, но боль способна доставить нам немало неприятных минут…*

*Расскажите, пожалуйста, о каких-то малоизвестных народных средствах, способных значительно облегчить состояние в такие моменты?*

**Ирина Федорова.**

### Если у вас болит зуб

Потрите область между большим и указательным пальцем кусочком льда. Вам станет немного легче. Таким образом вы воздействуете на нервные каналы, связанные с зубом. Но помните, что это лишь временная мера и визита к стоматологу она не отменяет!

### Если у вас сильное сердцебиение

Подуйте на большой палец. Этот совет часто дают сердечникам. Сердце действительно начинает биться ровнее. Но если у вас серьезные сердечно-сосудистые проблемы, то требуется более радикальное лечение.

### Если у вас заложен нос…

На ночь положите рядом с кроватью очищенную луковицу. Некоторые «народные медики» рекомендуют при насморке засунуть в нос дольку лука или чеснока. Но так можно повредить слизистую. Если лук будет просто лежать рядом, целительные фитонциды все равно достигнут цели, и насморк к утру пройдет.

### Если у вас свербит в носу, а чихать нельзя

Почешите нос. Вообще-то чихать полезно – это очищает легкие. Но бывают ситуации, когда это выглядит неуместным или неприличным. Теребя нос, вы определенным образом воздействуете на нервные окончания, «ответственные» за чихание, и желание чихнуть проходит.

### Если вы ощущаете позывы к рвоте

Вложите большой палец в кулак и сожмите крепче. Позывы прекратятся. Однако если вы, к примеру, отравились, то все-таки лучше найти возможность освободить желудок от содержимого.

### Если вас в самый неподходящий момент одолела дремота…

Сделайте глубокий и долгий вдох, а потом выдох. Это возбудит вашу нервную систему, и спать вам сразу расхочется.

### Если вас мучает бессонница

Быстро поморгайте в течение одной минуты. Гораздо чаще приходится слышать совет в таком случае мысленно считать слонов (или других животных), но опыт показывает, что данный метод крайне редко действительно помогает уснуть. Слонов можно так считать и до утра…

### Если у вас в лежачем состоянии кружится голова

Опустите одну ногу на пол. Зачем? Головокружение может возникать потому, что мозг не в состоянии определить ваше местоположение. Когда мы спускаем ногу вниз с кровати, мозг «перезагружается» и начинает работать как надо.

### Если у вас разболелась голова

Опустите руки в ледяную воду и пошевелите ими. Что за странный способ избавления от головной боли? Дело в том, что мигрень обычно имеет нервную природу. Данная манипуляция воздействует на нашу нервную систему, и боль может пройти.

### Если вас укусил комар…

Помажьте место укуса дезодорантом. Места комариных укусов часто потом долго и болезненно чешутся. Далеко не всегда у нас есть под рукой специальные мази или кремы, облегчающие состояние в этой ситуации. А вот дезодоранты есть дома практически у всех, и нередко мы носим их с собой в сумке. Эффект будет таким же, как от специального препарата.

Рэкламны аддзел: narodnayav@gmail.com
тэл.: +375 29 8 444 725, +375 29 111 30 77, +375 17 328-66-09

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 26.12.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 020 экз. Заказ № 4822.

9 772071 964000 16101